НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 48 (789) 26 снежня 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

Асобы года
Старонкі 5-6




# ЛЮДЗІ ГОДА

Кнігі года
Старонка 12




## Яны вярнулі Статут ВКЛ

Каляндар 2013
Старонка 9



# Старшыня Драгічынскага райвыканкама набывае аўто за 47 тысяч даляраў

Старшыня райвыканкама Юры Дзядзюк **(на фота)** працуе на сваёй пасадзе трохі больш за месяц. Ягонага папярэдніка Васіля Хвацка перавялі ў Баранавіцкі раён.

На сайце дзяржаўных закупак з'явілася прапанова, дзейсная да 10 студзеня 2013. Чыноўнікі хочуць набыць аўтамабіль Hyundai Santa Fe Comfort 4WD трэцяга пакалення ці аналаг. Пачатковая цана — 400 мільёнаў рублёў ($47 тысяч). Крыніца фінансавання — раённы бюджэт.

Патрабаванні да камплектацыі расцягнуліся на дзве старонкі. Руль і рычаг каробкі передач мусяць быць абцягнутыя скурай. Трэба прадугледзець электрычна זацямняльнае люстэрка задняга віду з компасам (!) і — увага! — «футарал для акуляраў у столевай кансолі».

Чыноўнікі хочуць цёмна-шэры ці чорны аўтамабіль з чорным салонам. Дакумент падпісаны заўгаспам раёна Аляксандрам Тынковічам.



Hyundai Santa Fe Comfort 4WD — выбар сур'ёзных людзей.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, Драгічынскі раён — адзін з самых бедных на Брэстчыне. Па ўзроўні заробкаў ён займае 13-е месца з 16 раёнаў. Горш толькі ў Століне, Маларыце і Ганцавічах. Сярэдні месячны заробак у Драгічынскім раёне за студзень-кастрычнік 2012 года склаў 2 675 700 рублёў.

Каб сабраць патрэбныя 400 мільёнаў рублёў, работніку з сярэдняй зарплатай давялося б адкладаць грошы да 2025 года, пры гэтым нічога не купляючы.

Цяпер некалькі словаў пра Hyundai Santa Fe Comfort 4WD. Патрабаванням Юрыя Дзядзюка часткова адпавядаюць мадэлі Comfort ці Style. Яны ў залежнасці ад камплектацыі каштуюць ў дылера $42 900-48 500. Гэта паўнапрывадны 5—7-мясцовы ўніверсал. Рухавік бензінавай мадэлі — 2,4 л.

Да 100 км/г старшыня райвыканкама зможа разганяцца за 11,4 секунды. А максімальная хуткасць аўто — 190 км/г.

У продаж аўтамабіль паступіў некалькі месяцаў таму.

Hyundai — марка з недарагіх. Але старшыня райвыканкама мог бы падабраць сабе ўседарожнік і яшчэ таннейшы: прынамсі, на 5—10 тысяч даляраў, ды без прыбамбасаў.

**Ягор Марціновіч**

**Хрыстос нарадзіўся!**

# Вера айцоў

Калядны зварот апостальскага візітатара для беларусаў замежжа айца **Аляксандра Надсана**.



Дзве апошнія нядзелі перад святам Нараджэння Хрыстовага ў візантыйскім абрадзе носяць назву нядзелі праайцоў і айцоў. У гэтыя дні Царква ўспамінае праведнікаў, якія жылі да нараджэння Хрыста і былі або Ягонымі продкамі паводле цела, або захавалі вернасць Богу і веру ў прыйсце Збавіцеля.

Як гэта бывае часта на свеце, жыццё іх склалася нялёгка, бо людзі, занятыя сваім штодзённым клопатам, не хацелі іх слухаць.

Ім давялося сустрэцца з абыякавасцю, а часта і з адкрытай варожасцю і пераследам. Вось што піша пра гэта аўтар Ліста да Габрэяў: «Некаторыя з іх зазналі катаванняў... іншыя цярпелі знявагі, бічаванні, кайданы і вязніцы. Іх каменавалі, распілоўвалі, забівалі мячом; яны туляліся ў авечых і казіных шкурах, церпячы бяду, гора і прыгнёт, — хоць свет не быў варты іх, — блукалі па пустынях, пячорах і земных ямах» (Габ 11:35–38). І канчае свой аповед: «І ўсе яны, хоць дзеля сваёй веры сталі годнымі пахвалы, не атрымалі абяцанага» (Габ 11:39), гэта значыць не дажылі, каб убачыць прыйсце Збавіцеля.

Ёсць нешта боскае ў бескарыслівых учынках для дабра іншых, калі не чакаюць падзякі.

Бог, які ў сваёй бязмежнай дабрыні стварыў нас і захацеў стаць адным з нас, не мае патрэбы ў нашай удзячнасці, але пачуццё ўдзячнасці неабходнае для нас саміх, бо яно прыходзіць з усведамленнем нашага месца ў плане Божага тварэння. Ягоная дабрыня ў адносінах да нас — бескарыслівая, і калі Ён чакае ад нас пачуцця ўдзячнасці, дык гэта перадусім для нашага дабра, як доказ, што наша сэрца на сваім месцы. Некалі псалміст напісаў: «Як гляну на неба, твор рук Тваіх, на месяц і зоркі, якія Ты заснаваў, — дык хто ёсць чалавек, што Ты пра яго памятаеш, і сын чалавечы, што Ты пра яго дбаеш?» (Пс 8:4–5). Сёння можам яшчэ сказаць: «Хто ёсць чалавек, што Ты захацеў стаць адным з іх?»

Дык хай Бог, які ў сваёй бязмежнай любові захацеў стаць адным з нас, напоўніць любоўю сэрцы нашыя, каб згінула злосць і нянавісць і каб мы ўсе сталі адной сям'ёй і маглі разам усклікнуць: «Слава на вышынях Богу, супакой на зямлі, добрая воля сярод людзей!»

*Лондан*



Усевалад Сцебурака

## К+М+Б

Пакуль не скінуў абароты
зямлі адвечны рухавік,
пакуль цары да Зоркі Усходу
яшчэ шыбуюць праз цалік,
давай падзелімся пяшчотай,
усмешкай вуснаў
моцай рук,
давай памірымся ўпотай,
бяз абяцанняў і зарук.

Давай, адкрыўшы насцеж дзверы,
чакаць. Госць у хату —
у хату Бог.
Давай мы кропляю даверу
гарачы замацуем грог.
Пасля сяброў паклічам ранкам,
запалім свечкі і камін…
І крэйдай выведзем над ганкам
перадкалядны напамін!

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 15000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 6 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

**Сціісла**

**На праязныя ў Мінску мову вернуць у лютым**

Праязныя на студзень былі надрукаваныя па-расейску. Людзі пачалі пісаць лісты ў «Мінсктранс», каб на білеты вярнулі беларускую мову. У «Мінсктрансе» паведамілі, што была дапушчаная памылка, і ад лютага на праязных зноў будуць назвы месяцаў і іншая інфармацыя па-беларуску.

**Загінуў на спрэчку**

Смаргонец так разгарачыўся алкаголем, што ўявіў сябе несмяротным. Ён вяртаўся з жонкай з вёскі Гарыдзяняты, калі паміж імі ўзнікла спрэчка. Мужчына даводзіў, што з ім нічога не здарыцца, калі ён ляжа проста на праезнай частцы. У выніку трапіў пад колы «Аўдзі 6А».

**У Мінску прайшоў ледзяны дождж**

Рэдкая з'ява назіралася на Раство 25 снежня. Бліжэйшымі днямі чакаецца пацяпленне.

**«Віталюр» адкрые сетку сямейных кавярняў**

У сярэдзіне студзеня першыя дзве кавярні Greenki адчыняцца ў новых мінскіх супермаркетах «Віталюра» — на Жыновіча, 7 і Рафіева, 56 (скрыжаванне з Бялецкага).

**Бабруйцы штурмавалі «Еўраопт»**

У Бабруйску адчынялі новы супэрмаркет «Еўраопт». Паабяцалі зніжкі, дык людзі так ціснуліся, што падушыліся. Паводле аўтараў відэа, якое выкладзена на Youtube, да шасці чалавек выклікалі хуткую дапамогу.

**СМ, ЗП, ЯМ**

**Рэкамендуем**

## Жорсткі гангнам-стайл па-беларуску

Смешнае відэа глядзіце на nn.by.

## Галоўны ідэолаг Мінабароны прагнуўся перад расійскім паслом

Палеміку вакол трактоўкі вайны 1812 года чытайце на nn.by.

**Самае чытанае на nn.by за 19-25 снежня**

1. Ксенія Сітнік спявае Брытні Спірс па-беларуску
2. Пяць фактаў пра Юрыя Караева
3. Мэрылін Мэнсан выйшаў на мінскую сцэну з бел-чырвона-белым грымам на твары
4. 12 дзяўчат з любоўю да Беларусі: альтэрнатыўны каляндар на 2013
5. У Канадзе арол схапіў дзіця, якое гуляла ў парку — відэа
6. Галоўны ідэолаг Мінабароны прагнуўся перад расійскім пасол
7. У серыяле пра забойства Кубэ па-беларуску гавораць паліцаі і прастытуткі
8. Журналістка з Прымор'я абсекла Пуціна на прэс-канферэнцыі: "Дзякуй, Вова"
9. У Пінску 20-гадовы пацыент выкалаў доктару вока
10. Як забіць частку жанчыны

# Людзі года — Аляксей Бацюкоў, Андрэй Радкоў, Зміцер Яцкевіч

Сёлета людзьмі года «Наша Ніва» прызнала энтузіястаў, якія вярнулі ў краіну Статут Вялікага Княства Літоўскага, — дырэктара Магілёўскага музея Аляксея Бацюкова, навукоўца Змітра Яцкевіча і студэнта Андрэя Радкова.

Іх заклік аб вяртанні гістарычнай спадчыны на радзіму атрымаў шырокі розгалас. Простыя людзі, бізнэсмены, чыноўнікі адгукнуліся на просьбу аб дапамозе і пераводзілі грошы, каб выкупіць Статут.

На гэтым кампанія не спынілася, працягваючы пошук іншых культурных артэфактаў, звязаных з Беларуссю.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Яцкевіч, Бацюкоў і Радкоў з кнігай «Вялікае мастацтва артылерыі».

**Аляксей Бацюкоў:** Магілёўскі музей нядаўна набыў яшчэ адну важную кнігу — «Вялікае мастацтва артылерыі» Казіміра Семяновіча.

**Зміцер Яцкевіч:** Было вельмі цяжка, але мы яе дасталі *(смяецца)*.

**«Наша Ніва»: Як увогуле пачыналіся вашы калекцыянерскія прыгоды?**

**АБ:** Год таму ў Магілёве мы прэзентавалі кнігу «Часоўнік», якую выкупілі дзякуючы сумесным намаганням нас трох і большага кола людзей. Тады мы і пазнаёміліся. На сайце «НН» з'явілася інфармацыя пра «Часоўнік». Там да Андрэя праз каментары звярнулася нейкая міфічная асоба, якая сказала: «А Статут купіць слабо?»

**Андрэй Радкоў:** Гэты чалавек скінуў спасылку на аўкцыён, дзе прадаецца Статут.

**АБ:** Ніхто, апроч Андрэя, не здагадаўся паглядзець тую спасылку.

**АР:** Настрой у мяне тады сапсаваўся на паўгода. Пакуль 7 чэрвеня не адбылася прэзентацыя Статута ў Мінску.

**ЗЯ:** Хутчэй ён быў не сапсаваны, а абцяжараны. Найперш нас, канечне, засмуціла цана гэтага выдання.

**АР:** Ад першапачатковай цаны мы праз перамовы дабіліся зніжкі 20%. Я абышоў шмат установаў. Знайшоў разуменне важнасці гэтай справы ў Нацыянальнай бібліятэцы. Але бібліятэка мае такі статус, што падарункі прымае, але сама не просіць. Я ўжо да ўсіх звярнуўся, да каго толькі мог. Потым патэлефанаваў Аляксею Бацюкову, і калі б не гэты чалавек, то не ведаю, што было б.

**«НН»: Бачу, што ў спадара Змітра іншая версія.**

**ЗЯ:** Канечне, у Андрэйкі ўжо склероз і манія велічы *(смяецца)*. Першым, каму ён тэлефанаваў, быў я. Цэлымі днямі ішлі цяжкія пераконванні Андрэя, што не трэба збіраць грошы на прыватны рахунак, як тое было з выкупам метрычнай кнігі Ішкальдскага касцёла за 1759-1807 гады, з «Часоўнікам». Трэ было яго пераканаць, што так нам не дадуць зрабіць, і трэба знайсці афіцыйны рахунак, з якога было б цяжка проста так забраць грошы. Мне было, відаць, цяжэй за ўсіх, бо трэ было спыняць Андрэя і апускаць на гэтую грэшную зямлю. Я да апошняга часу быў скептыкам. Калі нават Аляксей пагадзіўся ў маі, што адкрыем рахунак, то я ўсё адно не верыў у рэальнасць таго, што мы збярэм грошы. Калі праз пару тыдняў мне пазванілі і сказалі: трэба ехаць у Маскву, аддаць задатак і рабіць экспертызу Статута (каб за такія грошы мы не атрымалі нейкую падробку, я б такіх мог зрабіць штук дзесяць), то быў здзіўлены. Сапраўды, тут галоўнае — адказнасць, смеласць і ініцыятыва Аляксея.

**«НН»: Тры тыдні ішоў збор грошай на Статут.**

**ЗЯ:** Гэта было нешта неверагоднае. Недзе зоркі сышліся, ці што. Шалёныя тыдні. І грошы шалёна збіралі. Паўстала праблема дастаўкі грошай (мы ж гэтым ніколі не займаліся).

**АБ:** У легендарную версію нашых прыгодаў уваходзяць розныя ажурныя матывы, як, напрыклад, абкраданне цягніка, у якім мы ехалі, тэлефанаванні ад бандытаў, якія цікавіліся нашым маршрутам і тэлефонам прадаўца.

**«НН»: Нішто сабе.**

**АБ:** Так, гэтыя людзі называлі сябе «рэальнымі парнямі», якія сур'ёзна цікавяцца гэтай тэмай. Мы былі забяспечаныя вялікай падтрымкай людзей, але былі важныя моманты, якія павінны былі зрабіць самі, як прывоз грошай у Маскву і Статута ў Беларусь.

**«НН»: Грошы вазілі наяўнымі?**

**АБ:** Канечне. І першы раз налам, і другі. Прычым цалкам законна. Гэта ўсё можа пакінуць для наступнага рамана. Але цяпер мы ніколі не возім грошы налам *(смяецца)*. Было такое, што прадавец нас мучыў тым, калі казаў: «Зараз мой сябра намеснік міністра культуры Расіі скажа, як можна вывезці Статут». Кажа, звярніцеся ў сваё пасольства, тое хай звернецца ў МЗС Расіі, афармляйце і вывозьце.

**ЗЯ:** Мы зразумелі, што можам не пабачыць таго Статута і выращылі, што пойдзем у лес.

**АБ:** Перад гэтым падрыхтавалі муляж *(зноў смяецца)*.

**«НН»: Вы ўтрох ездзілі?**

**ЗЯ:** Так, але Аляксея потым узялі ў закладнікі.

**АБ:** Няпраўда! Я добраахвотна застаўся ў Маскве. Мы такія героі тут, але мы атрымалі Статут праз супрацоўніцтва з вялікай колькасцю людзей, арганізацый, якія ахвяравалі свае грошы. Кампаніі «Альпары» — асаблівая падзяка і апладысменты, яны зрабілі найбольшы ўнёсак у справу.

**АР:** Спрыянне Нацбанка таксама нам дапамагло.

**«НН»: Як у вашай тройцы размяркоўваліся абавязкі?**

**АБ:** Андрэй — ініцыятар, я — выканаўчы дырэктар, спадар Зміцер — эксперт. Андрэй маніторыў рынкі, знаходзіў, дзе яшчэ што ёсць на продаж, вёў перамовы з прадаўцамі. Я забяспечваў фінансавы бок справы, каб грошы не губляліся, пераводзіліся на легальны рахунак, справаздачы.

**ЗЯ:** Спроба падмены нас у гэтых функцыях ні да чога добрага не прыводзіла *(смяюцца)*.

**«НН»: Спадзяваліся, што водгук на ваш заклік будзе такі вялікі.**

**АБ:** Пра Статут — безумоўна. Ведалі, што гэта будзе нейкім нашым маленькім нацыянальным гонарам. Гэта ж Статут.

**«НН»: У Мінску няма рэўнасці, што правінцыйны музей у Магілёве набыў Статут, цяпер весь Семяновіча?**

**ЗЯ:** Велізарная.

**АР:** Мне давялося ахвяраваць працай, каб паехаць на дабрачынны суботнік па зборы сродкаў на выкуп «Вялікага мастацтва артылерыі». Былі такія размовы, што ты працуеш у Музеі гісторыі Мінска, а насамрэч клапоцішся пра Музей гісторыі Магілёва.

**АБ:** І Андрэй насамрэч пачаў працаваць у нашым музеі *(зноў смяюцца)*.

**ЗЯ:** Тое, што кнігі знаходзяцца ў Магілёве, — невыпадкова. Першымі, хто адгукнуліся на кліч, былі магілёўцы. І простыя, і тыя, што працуюць у Нацбанку, магілёўцы, якія жывуць за межамі. Пачэснае месца Статута сапраўды ў Магілёве. І жыхары горада, і кіраўніцтва, і Аляксей зрабілі для гэтага ўсё. Там ён будзе нармальна захоўвацца. Зробленая добрая вітрына для Статута. Але кожны музей хацеў бы мець такое выданне. У тым ліку Нацыянальная бібліятэка, якая на сёння, можа, мае і лепшыя ўмовы для захавання кніг, і лепшых спецыялістаў.

**«НН»: Міністр культуры Павел Латушка вам дапамагаў?**

**ЗЯ:** Быў падрыхтаваны ліст да яго. У адказ атрымалі рэзалюцыю: «Лічым немэтазгодным».

**АБ:** Праз тры тыдні пасля пачатку збору грошай да мяне звярнуліся з Міністэрства культуры давераныя асобы Латушкі. Сказалі, што ведамства можа дапамагчы музею. Агучвалася лічба як мінімум 100 мільёнаў. Але гэта было ў той самы дзень, калі мы даведаліся, што нам выдзяляе грошы «Альпары». То бок патрэбы ў тых 100 мільёнах ужо не было.

**«НН»: Чыста тэхнічнае пытанне. Як праходзяць перамовы з уласнікамі рарытэтаў?**

**АБ:** Па тэлефоне.

**АР:** Спачатку па інтэрнэце. Я такі студэнт, у мяне дзіравыя штаны, размаўляю з чалавекам, які 40 гадоў трымае гэты бізнэс у Маскве, у якога ахоўнікі з пісталетамі.

**АБ:** Карацей, гэта вельмі дэмакратычны бізнэс.

**ЗЯ:** Я адразу прасіў даслаць ілюстрацыі. Прычым не тыя, з гравюрамі, а дзе ёсць запісы ад рукі, іх цяжэй за ўсё падрабіць. Так мы рабілі і са Статутам, і з Семяновічам. На падставе гэтых копій рабілі першую экспертызу. Са Статутам пытанняў было меней, бо ён друкаваўся на паперы, што выраблялася на тэрыторыі ВКЛ. Філіграні могуць прадатаваць кнігу лепей, чым надрукаванае. А Семяновіч выдаваўся на нямецкай паперы, таму было крыху складаней. Гэтая праца вялася яшчэ да сустрэчы непасрэдна з прадаўцом.

**«НН»: А колькі разоў вы з ім сустракаліся?**

**ЗЯ:** Лепш за ўсё з ім сустракацца адзін раз. Калі прывезлі задатак, то ён з намі сустрэцца не захацеў. Пры куплі доўга яго чакалі. Толькі калі яму сказалі, што грошы заплачаныя, ён вырашыў з намі сустрэцца.

**АБ:** У гэтым асяродку асабістыя кантакты маюць вялікае значэнне.

**ЗЯ:** Мы не ведаем да канца гэты рынак калекцыянераў. Ён вельмі глыбокі і закрыты, чужых людзей туды неахвотна пускаюць.

Працяг на старонцы 4.

**Аляксей Бацюкоў**

Нарадзіўся ў 1977 у Магілёве. Скончыў гістфак Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, аспірантуру БДУ, паралельна працаваў на ТВ. Дырэктар музея гісторыі Магілёва.

**Зміцер Яцкевіч**

Загадчык аддзела публікацыяў і дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва. Нарадзіўся ў 1966 у Бабруйску. Скончыў БДУ, аспірантуру пры Беларускім навукова-даследчым інстытуце архіўнай справы і справаводства.

**Андрэй Радкоў**

Нарадзіўся ў 1988 у Мінску. Студэнт 3-га курса БДУ. Працуе ў Магілёўскім музеі гісторыі.

# Людзі года — Аляксей Бацюкоў, Андрэй Радкоў, Зміцер Яцкевіч

Працяг са старонкі 3.

**АР:** Нам пашанцавала, што Статут прадаваўся на адкрытым аўкцыёне. Бо трапіць у гэтае кола кнігалюбаў вельмі-вельмі складана.

**ЗЯ:** Людзі ў асяроддзі калекцыянераў ведалі гадоў 20, што Статут у гэтага чалавека ёсць.

**АБ:** А прадаваць адкрыта пачаў толькі цяпер.

**ЗЯ:** Папярэднюю экспертызу Статута рабіла доктар Гусева, яна раней працавала ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы, дык яна сказала, што такіх кніжак ужо сто гадоў няма на рынку. Ну няма дык няма *(усміхаецца)*. Цікавая палеміка ў інтэрнэце, як суседзі з Літвы паставіліся да гэтага.

**АБ:** Літоўцы, хай не ўсе, але вялікая колькасць навукоўцаў і каментатараў з вялікай асцярожнасцю, грэблівасцю і рэўнасцю ставіліся да нашай ініцыятывы. Непрыемна, мы ж нашчадкі адной культурна-гістарычнай спадчыны. На добры розум, трэба адно аднаму дапамагаць, а не адбіраць цацкі.

**«НН»: У Літве дзяржава дапамагае ў такіх выкупах?**

**АБ:** Не ведаем. Літоўцам прасцей набываць кнігі, бо няма мяжы з Еўрасаюзам, таму прасцей прывезці. Прасцей захаваць кнігі, бо ёсць мяжа з Беларуссю, праз якую можна не прапусціць. І з падаткаабкладаннем прасцей.

**«НН»: Экспертаў было двое? Адзін ад вас, другі ад прадаўца?**

**АБ:** Так, нас прадстаўляў Яцкевіч. Ад прадаўца — ужо названая Гусева. Абое вырашылі, што гэта арыгінал. Пасля куплі з'явіўся трэці эксперт, цяпер на 100% незалежны — прафесар Ягелонскага ўніверсітэта Уладзімір Мякішаў, паходзіць з Варонежа. Ён галоўны ў свеце спецыяліст па Статутах. Усе дасягальныя Статуты ён трымаў у руках, вывучыў кожную старонку, надпісы, філіграні. Цяпер ён падрыхтаваў кнігу пра ўсе вядомыя экзэмпляры Статутаў. Апошнім пунктам увайшоў магілёўскі Статут, які Мякішаў называе самым знакамітым.

**«НН»: Калі збіралі грошы, не баяліся, што ў гэты час нехта перакупіць?**

**АБ:** Яшчэ як баяліся.

**ЗЯ:** Нам спачатку далі часу тры месяцы. А калі мы задатак аддалі, то месяц, і не хвалюе.

**АБ:** Ужо ў першы тыдзень з'явіўся тытульны спонсар, які паабяцаў грошы. Праўда, назаўтра не патэлефанаваў. Пасля высветлілася, што не будуць яны нам купляць, бо хочуць быць адзінымі спосарамі, а не аднымі з многіх. Гэта нам зблытала карты, бо прадавец лічыў, што вось-вось набудзем.

**«НН»: А якая гісторыя гэтага асобніка Статута?**

**ЗЯ:** Дзесьці да сярэдзіны XVII ст. кніга была ў Беларусі, потым, падчас вайны з Масквой, была вывезеная князем Васілём Скрапоткіным, смаленскім. У 1680-я яе падарылі разанскаму епіскапу, якому кніга была непатрэбная, бо мова незразумелая. У 1839 яна трапіла ў бібліятэку Разанскай духоўнай семінарыі. Тады ж быў зроблены пераплёт. Пасля рэвалюцыі, найхутчэй, яна трапіла ў якую школу ці навучальную ўстанову альбо адразу была скрадзеная ў прыватныя рукі.

**«НН»: На Семяновіча збіраць было ўжо цяжэй?**

**АБ:** Мы атрымалі інфармацыю аб продажы кнігі Семяновіча ў Беларусі за 15 тысяч еўра. Падчас акцыі па выкупе Статута мы мелі ад шэрагу прыватных асоб і прадпрыемстваў абяцанне фінансавай падтрымкі, калі будзем працягваць такую дзейнасць. Але калі справа дайшла да набыцця, то жадання ў гэтых людзей было небагата. Сумы ахвяраванняў у параўнанні са Статутам скараціліся ў сотні разоў. Не болей за мільён. Ішла барацьба з грамадскай думкай, якая нядаўна ўзнасіла нас за набыццё Статута, а цяпер мы казаліся папрашайкамі, якія на хвалі славы хацелі працягваць купацца ў гэтых акцыях.

**«НН»: І што рабілі, каб усё ж знайсці грошы?**

**АБ:** Быў суботнік дабрачынны ў ліпені. 35-градусная спёка, прапалка елачак, цеплавы ўдар у чатырох чалавек. Гэта быў такі жэст адчаю. Потым зрабілі дабрачынны канцэрт. Да нас цудоўна паставілася дырэкцыя клуба «Cuba» ў Магілёве, якая бясплатна дала нам памяшканне. Вялікая колькасць гуртоў пагадзілася сыграць — гэта Oblik-O-Morale, «Знутры», Nimata, Osimira, Confuzzled, Green Pills, Re1ikt, Nevma і Паліна Рэспубліка.

**«НН»: Але ж грошы знайшлі.**

**АБ:** Хочацца сказаць вялікі дзякуй арганізацыі, якая стварае гульню World of Tanks. Яны ахвяравалі 20 мільёнаў на выкуп. Я патэлефанаваў іх дырэктару, прапанаваў сумесную акцыю. Яны сказалі, маюць мала часу і не хочуць адрываць супрацоўнікаў, што лепш проста ахвяруюць грошы. Ёсць яшчэ буйныя ахвярадаўцы: адзін магілёвец, які папрасіў сябе не называць, «Трайпл», Павел Бераговіч.

**«НН»: Купілі за 15 тысяч еўра?**

**АБ:** Існуе шэсць ранніх выданняў працы Казіміра Семяновіча. Першая частка «Вялікага мастацтва артылерыі» выйшла на лаціне ў 1650 годзе. Частку другую ён не падрыхтаваў, але магчыма, у яго былі рукапісы. Праз год выйшла выданне на французскай. У 1676 — на нямецкай, у якім была частка другая, напісаная не самім Семяновічам, але, магчыма, з выкарыстаннем яго рукапісаў. У 1725 выйшлі адразу два выданні — па-англійску і па-дацку. І нарэшце, у 1729 яшчэ раз па-нямецку.

Першапачаткова грошы збіраліся на французскае выданне. Але агульная сума ахвяраванняў была ў тры разы меншай за азначаныя 15 тысяч.

Працягваць далей вялікага сэнсу не было, бо не расла сума. Разам з тым мы атрымалі альтэрнатыўныя прапановы на кнігі Семяновіча, сумы не перавышалі 8 тысяч даляраў.

Восенню стала вядома, што Нацыянальная бібліятэка купіла для сваіх фондаў два выданні Семяновіча — лацінскае і французскае. Са значнымі стратамі. Яшчэ ў Беларусі ёсць шостае выданне. Таму закупнай камісіяй музея было прынятае рашэнне набыць трэцяе нямецкае выданне.

**«НН»: Чым для нас важная кніга Семяновіча?**

**АР:** Семяновіч адзначае, што напісаць гэтую працу яго прымусіла любоў да Радзімы, жаданне зрабіць нешта на карысць Айчыны. Артылерыя ў ВКЛ лічылася нешляхетнай справай, але час дыктаваў свае ўмовы. Артылерыя стала каралевай вайны. Ад яе залежаў лёс краіны. Семяновіч добра разумеў важнасць артылерыі, хацеў, каб на радзіме гэтае мастацтва было запатрабаванае.

**ЗЯ:** Генерал-лейтэнанта каралеўскай артылерыі Рэчы Паспалітай Семяновіча паважаў кароль Уладзіслаў. Семяновіч заўсёды падкрэсліваў, што паходзіць з «Літуаніі», з Літвы. Гэта істотна.

**АР:** Аналіз мовы кніг Семяновіча дае падставу гаварыць, што ён нарадзіўся недзе на поўначы Беларусі. Там не толькі сухая лаціна, што трэба змешваць тое і тое, але і пэўныя дзённікавыя адступленні. Гэты чалавек незаслужана забыты.

**АБ:** У сусветнай навуцы мы не маем падобнага аўтарытэта да XX ст.

**ЗЯ:** Усе кнігі Семяновіча сёння чакаюць сапраўднага даследчыка і перакладу на беларускую мову, каб усе маглі прачытаць. Ведалі і ганарыліся.

**«НН»: «Трайпл» Чыжа вось вам даў грошы, а што іншыя багатыя беларусы, алігархі, калі так можна казаць?**

**ЗЯ:** Можна.

**АБ:** Некарэктна казаць, што вось адны далі, а вы — не.

**АР:** Гэта ж не прымусовыя справы. Нельга нікога прымусіць зрабіць дабро.

**«НН»: Якія цяпер планы?**

**АБ:** Мы ўжо казалі, што рынак гэты вельмі-вельмі глыбокі. Ёсць шмат розных артэфактаў. Нярэдка гэтыя рынкі блізкія да нас, нярэдка — далёкія. Былі б грошы.

**ЗЯ:** Тут варта было б сказаць пра наша самае вялікае шкадаванне года. Паралельна з Казімірам Семяновічам з'явілася інфармацыя аб продажы «Апостала», надрукаванага Спірыдонам Собалем. Вельмі цікавае выданне. Але кнігу перакупілі.

Цяпер нам трэба пасядзець, асэнсаваць нашы памылкі.

**АБ:** Нам бракуе разгалінаванай сістэмы працы з людзьмі, якія гатовыя выкупаць артэфакты. Я не хачу называць, але сёння мы б маглі купіць чатыры рэчы, якія маглі б упрыгожыць любы музей. Не дзелімся, бо інфармацыя павышае кошт гэтых падуктаў. З Собалем тое самае было. «Апостал» каштаваў 5 тысяч даляраў, як толькі стала вядома, што ён цікавы беларусам, цана ўзрасла да 8 тысяч.

**«НН»: Менавіта таму што беларусы?**

**АБ:** Прадавец канкрэтна сказаў, патлумачыў. Калекцыйныя асяродкі маюць добрую камунікацыю. Усе нашы акцыі адгукаюцца і ў ЗША, і ў Іспаніі, і ў Аўстраліі.

**«НН»: То бок Беларусь стала на гэтым рынку новым гульцом?**

**АБ:** Бачна, што так. Па Семяновічу, напрыклад, мы ўлезлі ў бойкую гульню паміж палякамі і літоўцамі.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Аляксей Бацюкоў з прадстаўнікамі кампаніі «Альпары» падчас прэзентацыі Статута.

**Людзі мінулых гадоў па версіі «НН»**

2003 — прадзюсар беларускамоўнай музыкі Віталь Супрановіч

2004 — старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна

2005 — палітык Аляксандр Мілінкевіч

2006 — чалавек Плошчы

2007 — маладафронтавец

2008 — трэнер Віктар Ганчарэнка

2009 — Наталка Васілевіч і іншыя дабрачынцы

2010 — былы падпалкоўнік міліцыі Мікалай Казлоў

2011 — музыка Сяргей Міхалок



«Вялікае мастацтва артылерыі».

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Асобы года

**Па традыцыі ў апошнім нумары «Наша Ніва» вызначае людзей года. Тых, чые ўчынкі запомніліся, паўплывалі на гісторыю. Самыя яркія асобы года — у рэйтынгу «НН».**

### Дыпламат года — Стэфан Эрыксан

У жніўні паслу Швецыі Стэфану Эрыксану беларускае МЗС не падоўжыла акрэдытацыю. Дыпламату ў тэрміновым парадку давялося збіраць валізы, вяртацца ў Стакгольм. Але палюбілі яго беларусы зусім не за гэта. Эрыксан бліскуча валодае беларускай мовай, перакладае творы нашай літаратуры, спрычыняўся да шматлікіх культурных і грамадскіх падзей. Цяпер Эрыксан паранейшаму не забывае пра Беларусь. Нават сваю старонку ў Фэйсбуку вядзе па-беларуску.

### Цацка года — плюшавы мядзведзік

Выгнанню Эрыксана папярэднічала дзёрзкая акцыя, зладжаная пры падтрымцы рэкламнага агенцтва Studio Total. Тумас Мазэці і Ганна Ліна Фрэй «бамбардавалі» з самалёта Івянец і Мінск плюшавымі мядзведзікамі, да якіх былі прымацаваныя цыдулкі з інфармацыяй пра палітвязняў і парушэнні правоў чалавека. Мілыя дзіцячыя цацкі раптоўна сталі крамольнымі. За здымкі з мядзведзікамі затрымлівалі журналістаў. А чыноўнікі Рачкоўскі і Пахмелкін нават страцілі пасады, хоць упарта адмаўлялі факт незаконнага перасячэння мяжы.



**Плюшавыя мядзведзікі з бяскрыўднай цацкі ператварыліся ў сімвал салідарнасці з беларусамі.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


**Пасол Эрыксан паляцеў, але абяцаў вярнуцца.**


**Андрэй Саннікаў абжываецца ў лонданскіх дэкарацыях.**


**Фатограф Антон Сурапін незразумела за што адседзеў месяц у «амерыканцы». Ніякай кампенсацыі яму не сплацілі.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


**Алег Стахаевіч (злева) дабіўся палёгкі для рабочых «Граніта».**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Фатограф года — Антон Сурапін, рыэлтар года — Сяргей Башарымаў

Гэтыя хлопцы прабылі больш за месяц у турме КДБ па абвінавачанні ў дапамозе шведам па перасячэнні мяжы. Адзінае, што іх аб'ядноўвала са «справай мядзведзікаў»: Сурапін на сваім сайце першы выставіў здымкі плюшавых цацак, а Башарымаў — некалі здаваў шведам кватэру. У выніку абодвух хлопцаў адпусцілі, статус падазраваных не знялі, але і ніякіх працэсуальных дзеянняў не праводзяць.

### Героі года — Алесь Бяляцкі, Мікола Статкевіч і іншыя палітвязні

У няволі застаецца 13 палітвязняў. Тыя людзі, якія цаной сваёй волі, адмаўляюцца пісаць прашэнні аб памілаванні на імя Лукашэнкі. Гэта Мікола Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Павел Севярынец, Зміцер Дашкевіч, Эдуард Лобаў, Мікола Аўтуховіч, Васіль Парфянкоў, Аляксандр Малчанаў, Мікалай Дзядок, Аляксандр Францкевіч, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка.

### Эмігрант года — Андрэй Саннікаў

Андрэй Саннікаў у красавіку выйшаў з турмы. Праз паўгода, у кастрычніку, стала вядома, што экс-кандыдат у прэзідэнты атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі. Выехалі таксама паплечнікі Саннікава па «Хартыі-97»: Зміцер Бандарэнка, Аляксандр Атрошчанкаў, Мікалай Халезін, Наталля Радзіна.

Сёлета з Беларусі таксама быў вымушаны з'ехаць галоўны рэдактар часопіса Arche Валер Булгакаў.

### Журналіст года — Андрэй Пачобут

Гродзенскі карэспандэнт польскай «Газеты Выборчай» ужо адседзеў у турме за паклёп на прэзідэнта.

Сёлета быў паўторны наезд. Нават дзесяць сутак Андрэй правёў у СІЗА. Відаць, дамагаліся, каб Пачобут пісаў на больш нейтральныя тэмы. Не запалохалі. Пяро Пачобута застаецца такім сама вострым.

### Салідарнасць года — хлопцы з «Граніта»

Рабочыя прадпрыемства «Граніт» праявілі зайздросную салідарнасць. Хай некаторых, як іх лідара Алега Стахаевіча, звольнілі з працы, але хлопцы ўсё ж дабіліся значнага паляпшэння стаўлення кіраўніцтва да рабочых і павышэння заробкаў.

### Сцяганосец года — Ніна Багінская

Гэтая мінская пенсіянерка неаднаразова проста брала бел-чырвона-белы сцяг і выходзіла на цэнтральныя вуліцы Мінска. 19 снежня гэткім чынам яна адзіная ўшанавала гадавіну Плошчы. Падняць руку на спн. Багінскую спецназаўцы не адважваюцца, толькі сцягі забіраюць, але спадарыня Ніна ўсё адно выходзіць.

Працяг на старонцы 6

# Асобы года

Працяг са старонкі 5.

**Маці года — Любоў Кавалёва**

Іншая на яе месцы ўжо даўно апусціла б рукі, а Любоў Кавалёва працягвае дабівацца, каб спрэчныя моманты ў справе Уладзіслава Кавалёва былі перагледжаныя, нарэшце, каб ёй аддалі цела сына, расстралянага па справе выбуху ў мінскім метро.

**Гісторык года — Андрэй Чарнякевіч**

Сёлета свет пабачыла цудоўная кніга «Гродназнаўства», своеасаблівая энцыклапедыя жыцця горада святога Губерта. І першапачаткова яна была выдатна ацэненая не толькі незалежным грамадствам, але і мясцовымі чыноўнікамі. Праўда, праз некалькі месяцаў у Гродне пачалося «паляванне на вядзьмарак». Аднаго з аўтараў «Гродназнаўства», гісторыка Андрэя Чарнякевіча, звольнілі з універсітэта. Выгналі за што? За тое, што якасна зрабіў сваю працу.

**Ізя Сігізмундавіч года — Марат Новікаў**

У бізнэсмена Марата Новікава дзяржава забрала два кандытарскія прадпрыемствы — «Камунарку» і «Спартак». Лукашэнка казаў, што давялі лідараў вытворчасці да вартага жалю стану. Дасталося і асабіста ўласніку, якога Лукашэнка назваў «Ізем Сігізмундавічам». Каб Новікаў быў у Беларусі, а не ў ЗША, то арышту, відаць, не пазбег бы.

**Гадзіннікі года — Кірыл, Мясніковіч**

У часе візіту патрыярха РПЦ ва Украіну журналісты сфатаграфавалі гадзіннік Кірыла. Высветлілася, што каштуе ён 30 тысяч еўра. Разгарэліся спрэчкі, ці можа духоўная асоба валодаць такімі багаццямі. Зрэшты, прыцягнуў увагу грамадскасці гадзіннік не толькі патрыярха, але і прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча, сфатаграфаваны падчас эканамічнага форуму. Кіраўнік урада мае гадзіннік за 37 тысяч даляраў — даражэйшы, чым у Лукашэнкі.

**Спявачка года — Ларын**

Яшчэ адна намінацыя сёлетняга топа сыходзіць у Швецыю. Спявачка Ларын перамагла на «Еўрабачанні» ў Баку. З шэрагу астатніх поп-зорак яе вылучае неабыякавасць да парушэння правоў чалавека. Яшчэ падчас фэсту яна сустракалася з азербайджанскай апазіцыяй. Калі ж шведка прыехала ў Мінск, то спаткалася з жонкай Алеся Бяляцкага Натальляй Пінчук і сфатаграфавалася ў майцы з выявай праваабаронцы. Пра справу Бяляцкага, дзякуючы гэтаму, даведалася шмат людзей.

**Дубль-два года — Алена Ланская**

Спявачка такі паедзе на «Еўрабачанне». Хай і з другога разу. Першы адбор у лютым выліўся ў вялізны скандал з-за фальсіфікацыі вынікаў. У справу даваліся асабіста ўмяшацца Лукашэнку, які ўшчуваў «вінаватых». У Баку паехалі «Лайтсаўнд». Праўда, зорак з неба там хлопцы не хапалі. У снежні ж Ланская без асаблівага розгаласу дабілася свайго — выйграла фінал нацыянальнага адбору на «Еўрабачанне». І ніякіх скандалаў!

**Развод года — Анжаліка Агурбаш**

Свецкая хроніка ў Беларусі ёсць! Колькі тысяч людзей з заміраннем сэрца сачылі за падрабязнасцямі разводу поп-дзівы Анжалікі і яе мужа, мяснога магната Агурбаша! Каму застанецца маёмасць пры падзеле, дзе будзе жыць Ліка, ці развянчае іх Філарэт? Такія навіны адразу рабіліся самымі чытанымі ў беларускім інтэрнэце.

**Спартсменка года — Вікторыя Азаранка**

Рэдка беларусы дасягаюць поспехаў у «элітных» відах спорту. Вікторыя тут — адно з нямногіх выключэнняў. Сёлета тэнісістка ўпершыню перамагла ў турніры «Вялікага шлема», стала першай ракеткай свету і выйграла два медалі Алімпіяды (у адзіночцы і ў пары). Праўда, айчынных журналістаў Вікторыя зусім не песціць, дае інтэрв'ю толькі замежнікам.

**Пытаннечка года — Вікторыя Папова і Зміцер Лукашук**

Тэлефанаванне журналіста «Еўрарадыё» Зміцера Лукашука да сябра журы нацыянальнага адбору на «Еўрабачанне», супрацоўніцы «Советской Белоруссии» Вікторыі Паповай, нарабіла шуму. На бяскрыўднае «пытаннечка», за каго галасавала Папова на «Еўрабачанні», журналістка адказала: «Як жа я вас люблю, беларусаў... Ненавіджу! Ненавіджу!» Потым спадарыня Папова апраўдвалася, што гэтая фраза не тычыцца беларусаў, але хто ж ёй паверыў. Людзі балюча рэагуюць на абразы мовы ці нацыянальнай годнасці.

**Трыумф года — Фелікс Баўмгартнэр**

43-гадовы аўстрыйскі парашутыст прадэманстраваў, што чалавек здольны на многае. Бясстрашны мужчына скокнуў з парашутам з вышыні 39 кіламетраў, са стратасферы. Хуткасць ягонага падзення перавысіла хуткасць гуку. За скачком Баўмгартнэра сачылі анлайн 8 мільёнаў чалавек па ўсім свеце.

**Зміцер Панкавец**



Вікторыя Азаранка стала першай ракеткай свету.




Ларын выказала салідарнасць з Алесем Бяляцкім.



Марат Новікаў.



Любоў Кавалёва страціла сына, але не спынілася.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



Гадзіннік Мясніковіча каштуе 37 тысяч даляраў. Даражэйшы, чым у Лукашэнкі.

АНТОН МАТОЛЬКА

# 2012: Як гэта было, або Хроніка найбольш значных падзей

### Студзень

Пачатак года адзначыўся пратэстамі рабочых. Набраў моц канфлікт на мікашэвіцкім «Граніце». У старшыні мікашэвіцкай суполкі незалежнага прафсаюза Алега Стахаевіча забралі пасведчанне кіроўцы, а тым самым і працу.

Стала вядома, што экскандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў падпісаў прашэнне аб памілаванні.

Вікторыя Азаранка стала першай ракеткай свету — у фінале Australian Open яна перамагла Марыю Шарапаву.

### Люты

Дыпламатычны скандал: афіцыйны Мінск выслаў з краіны кіраўніцу прадстаўніцтва Еўракамісіі Майру Мору і пасла Польшчы Лешака Шарэпку. У адказ усе паслы краін ЕС выехалі з Беларусі.

Грамадскасць выявіла махінацыі ў галасаванні ў фінале «Еўрафэсту». У выніку спявачка Алена Ланская вымушаная была аддаць перамогу гурту Litesound.

4 лютага ў Маскве апазіцыя вывела на мітынг на Балотнай плошчы больш за 100 тысяч чалавек.

### Сакавік

17 сакавіка родныя асуджаных за тэракт у мінскім метро атрымалі ліст з Вярхоўнага Суда, у якім гаварылася, што Канавалава і Кавалёва расстралялі. Працэс і яго вынікі дагэтуль пакідаюць у праваабаронцаў шмат пытанняў.

Еўрасаюз пашырыў спіс візавых і эканамічных санкцый супраць лукашэнкаўцаў. У тым ліку супраць бізнэсоўцаў Чыжа, Тарнаўскага і Пефціева.

3 сакавіка абвясцілі пераможцу Літаратурнай прэміі імя Гедройца. Ім стаў Павел Касцюкевіч.

4 сакавіка на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі перамог Уладзімір Пуцін. Мітынг апазіцыі жорстка разагналі.

### Красавік

14 красавіка на волю выйшаў Андрэй Саннікаў, на наступны дзень вызвалілі Змітра Бандарэнку. Неўзабаве ў Беларусь пачалі вяртацца паслы краін ЕС.

### Май

Работніца Мазырскага НПЗ Марына Цыбліенка адсудзіла ў апазіцыянера Віктара Івашкевіча 500 тысяч рублёў за заклікі да санкцый. Яна заявіла, што не мае ўпэўненасці ў будучыні і перажывае стрэс.

Фільм Сяргея Лазніцы «У тумане» паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава атрымаў прыз Міжнароднай Федэрацыі кінакрытыкаў у Канах.

На «Еўрабачанні» ў Баку перамагла шведская спявачка Ларын. У часе конкурсу яна сустрэлася з прадстаўнікамі азербайджанскай апазіцыі, а пазней у Мінску — з жонкай Алеся Бяляцкага.




**Часопіс Time другі раз назваў прэзідэнта ЗША Барака Абаму чалавекам года.**

### Чэрвень

У Беларусь вярнуўся арыгінальны асобнік Статута Вялікага Княства Літоўскага. Яго выкупілі за $45 тысяч у маскоўскага антыквара. Да вяртання рэліквіі спычыніліся студэнт Андрэй Радкоў, дырэктар Музея гісторыі Магілёва Аляксей Бацюкоў і навуковец Зміцер Яцкевіч.

Лідарка бірманскай апазіцыі Аунг Сан Су Чжы праз 21 год атрымала сваю Нобелеўскую прэмію.

У Польшчы і Украіне пачаўся Чэмпіянат Еўропы па футболе. Ніколі яшчэ чэмпіянат не падбіраўся так блізка да нашых межаў. Перамаглі іспанцы.

### Ліпень

4 ліпеня група шведаў перасекла мяжу Беларусі на лёгкаматорным самалёце і раскідала над Івянцом і Мінскам сотні плюшавых мядзведзікаў з надпісамі ў падтрымку правоў чалавека ў Беларусі. Улады доўгі час адмаўлялі гэты факт. Пазней КДБ затрымаў маладога фатографа Антона Сурапіна, які першым размясціў здымкі мішак на сваім сайце, а таксама рыэлтара Сяргея Башарымава, які здаў шведам кватэру ў Мінску. 26 ліпеня Лукашэнка адправіў у адстаўку старшыню Дзяржпагранкамітэта Ігара Рачкоўскага і камандуючага ВПС і войскамі СПА Дзмітрыя Пахмелкіна.

27 ліпеня ў Лондане стартавалі XXX Алімпійскія гульні. Беларускія спартоўцы не выканалі загаду прывезці 25 медалёў.

### Жнівень

Пасла Швецыі Стэфана Эрыксана выслалі з Беларусі, пасольства спыніла працу.

20 жніўня Лукашэнка правёў чарговую ракіроўку. На месца вызваленага ад пасады міністра замежных спраў Сяргея Мартынава прызначылі невядомага кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Макея.

Беларускую штурхальніцу ядра Надзею Астапчук пазбавілі залатога медаля Алімпіяды ў Лондане праз ужыванне допінгу.

Хамоўніцкі суд Масквы 17 жніўня прысудзіў удзельніц гурту Pussy Riot, абвінавачаных у хуліганстве за панк-малебен «Багародзіца, Пуціна прагані» ў маскоўскім Храме Хрыста Збаўцы, да двух гадоў агульнага рэжыму.

Нарвежскі тэрарыст Андэрс Брэйвік атрымаў 21 год турмы.

### Верасень

23 верасня адбыліся выбары ў парламент. Эксперты назвалі іх аднымі з самых панылых у найноўшай гісторыі. Незалежныя назіральнікі засведчылі надзвычай нізкую яўку насельніцтва на ўчасткі для галасавання.

У Гродне з продажаў знялі кнігу «Гродназнаўства». На аўтараў кнігі пачаўся ціск: выкладчыкаў універсітэта імя Янкі Купалы Андрэя Чарнякевіча і Ігара Кузьмініча звольнілі, іншым абрэзалі стаўкі.

14 верасня ў Гродне быў затрыманы рэдактар часопіса «Arche» Валер Булгакаў, які прэзентаваў новую кнігу. Супрацоўнікі падатковай інспекцыі зрабілі «кантрольны закуп». Булгакаў быў вымушаны з'ехаць з краіны.

26 верасня на свабоду выйшаў палітвязень Сяргей Каваленка.

### Кастрычнік

Нобелеўскую прэмію міру 2012 атрымаў Еўрасаюз — «за пераўтварэнне кантынента войнаў у кантынента міру». Адным з намінантаў быў Алесь Бяляцкі.

Напрыканцы месяца ўспыхнуў скандал, звязаны з забудовай у ахоўнай зоне Курапатаў. У якую сотню метраў ад крыжоў дабудоўваецца вялізны рэстаран «Бульбаш-хол». Рэзананс у грамадстве прымусіў Мінкультуры ўзяцца за справу.

Лукашэнка нацыяналізаваў кандытарскія фабрыкі «Камунарка» і «Спартак».

Андрэй Саннікаў атрымаў палітычны прытулак у Вялікабрытаніі.

### Лістапад

Серыя надзвычайных здарэнняў: 5 лістапада на беларуска-польскай мяжы адбыўся выбух, 6 лістапада невядомыя кінулі «кактэйль Молатава» ў літоўскае пасольства ў Мінску, 11 лістапада ў Віцебску каля КДБ адбываецца выбух «самаробнага піратэхнічнага прыстасавання», пашкоджаныя вокны.

Вызвалены ад пасады кіраўнік КДБ Вадзім Зайцаў, неўзабаве яго месца заняў старшыня Следчага камітэта Валер Вакульчык. Міністр культуры Павел Латушка стаў паслом у Францыі.

7 лістапада ў Мінску запрацавалі тры новыя станцыі метро — «Грушаўка», «Міхалова» і «Пятроўшчына».

Барак Абама перамог Міта Ромні на выбарах прэзідэнта ЗША.

### Снежань

Лукашэнка падпісаў дэкрэт №9, які забараняе супрацоўнікам дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў звальняцца без згоды працадаўцы.

Пад Віцебскам камунальныя службы ў суправаджэнні міліцыі знеслі і спалілі вёску Паўлавічы. Яе мусілі знесці яшчэ 20 гадоў таму, каб пабудаваць новую ЦЭЦ, але планы змяніліся і людзі летавалі там дагэтуль.

Мінскія ўлады адклікалі прэтэнзіі да царквы «Новае жыццё». Вернікі адстаялі свой будынак, за які змагаліся апошнія 6 гадоў.

**Сямён Печанко**

### Яны адышлі ад нас за 2012 год

**Ёэзф Шкворэцкі** — чэшскі пісьменнік
**Пятро Васілеўскі** — футбаліст мінскага «Дынама», чэмпіён СССР-1982
**Уладзімір Жбанаў** — скульптар
**Яўген Шатохін** — мастак
**Віслава Шымборска** — польская паэтка
**Пятро Шашкель** — сябра КХП-БНФ
**Уітні Х'юстан** — амерыканская спявачка
**Тодар Копша** — мастак
**Валеры Булдык** — аператар
**Эдуард Зарэмба** — футбаліст
**Аляксандр Дзянісаў** — акцёр
**Міхась Цікоцкі** — філолаг, журналіст
**Ірына Марачкіна** — жонка Аляксея Марачкіна
**Анатоль Сабалеўскі** — тэатразнаўца
**Міхась Тычына** — краязнавец, журналіст (Слуцк)
**Арына Вячорка** — ініцыятарка адраджэння рыцарскага руху
**Валянціна Каралёва** — намеснік міністра працы
**Віталь Гарановіч** — педагог, паэт (Глыбокае)
**Ганна Пазняк** — маці Зянона Пазняка
**Арыстарх (Андрэй Станкевіч)** — архіепіскап Гомельскі і Жлобінскі
**Ігар Чаквін** — антраполаг
**Самсон Палякоў** — журналіст, кінасцэнарыст
**Міхаіл Булахаў** — прафесар
**Уладзіслаў Пятрайціс** — ксёндз (Іказнь, Браслаўскі раён)
**Дана Самэр** — каралева дыска
**Паліна Жук** — веласіпедыстка
**Эдуард Хіль** — савецкі спявак
**Уладзімір Крутаў** — савецкі хакеіст
**Рэй Брэдберы** — амерыканскі пісьменнік
**Галіна Малчанава** — маці палітвязня Аляксандра Малчанава
**Барыс Звозскаў** — праваабаронца
**Якуб Конан** — апошні беларус-удзельнік бітвы пад Монтэ-Касіна
**Іцхак Шамір** — прэм'ер Ізраіля, ураджэнец Беларусі
**Сяржук Вітушка** — лідар «Талакі»
**Вера Вярба** — паэтка
**Багдан Ступка** — украінскі акцёр
**Іван Кіявец** — дэпутат савета рэспублікі
**Сяргей Аляхновіч** — спартыўны журналіст
**Аляксандр Колбышаў** — акцёр і рэжысёр
**Янка Саланевіч** — псеўданімік і бібліёграф
**Сяргей Капіца** — расійскі навуковец, тэлевядучы
**Гары Гарысан** — пісьменнік-фантаст
**Ніна Разанцава** — актрыса
**Мілена Ануфрыёнак** — журналістка БелТА
**Ніл Армстранг** — першы чалавек, што ступіў на Месяц
**Алесь Петрашкевіч** — драматург, сцэнарыст
**Якаў Навуменка** — спявак
**Ігар Кваша** — вядучы перадачы «Чакай мяне»
**Алег Клімчанка** — басіст гурту Litvintroll
**Сяргей Арцюхін** — барэц, што выступаў за зборную Беларусі
**Уладзімір Пузыня** — дудар
**Уладзімір Радзівончык** — былы актывіст АГП і Руху «За Свабоду» (Пружаны)
**Хрысціна Шацікава** — грамадская актывістка (Магілёў)
**Генадзь Асташонак** — мастак-рэканструктар
**Мікалай Мельнікаў** — стваральнік музея Васіля Быкава ў Гродне
**Іван Агееў** — стваральнік фальклорнага гурту «Дзянніца»
**Сяржук Цімохаў** — мастак
**Віктар Чыкін** — экс-лідар КПБ
**Максім Падбярозкін** — намеснік кіраўніка ДАІ
**Ежы Літвінюк** — польскі перакладчык Быкава
**Настасся Бакуновіч** — дырэктарка турфірмы «Віста-Трэвэл»
**Насця Майстрэнка** — мастачка
**Ілля Алейнікаў** — акцёр і вядучы «Гарадка»
**Барыс Стругацкі** — расійскі пісьменнік
**Наталля Меркіс** — талакоўка (Гомель)
**Юрась Сцяпанаў** — журналіст (Віцебск)
**Алег Сурскі** — мастацтвазнаўца
**Антон Сабалеўскі** — беларус з Масквы
**Яўген Краўцоў** — банкір, мецэнат.

**Падрыхтаваў Зміцер Панкавец**

# Няма рук, няма ног, але Нік робіць усё



**Гісторыя жыцця**
30-гадовага Ніка Вуічыча дзівосная.

Вуічыч нарадзіўся без ног і без рук у сям'і сербскіх эмігрантаў у Аўстраліі. Рэдкая хвароба — сіндром тэтра-амелія.

Бацькі спачатку былі ў роспачы, але рабілі ўсё, каб развіць дзіця, якое многім здавалася безнадзейным. Дактары адначасова працавалі над ягоным уменнем карыстацца пратэзамі і выжываць без пратэзаў. І ўсё адно дзяцінства хлопца было поўнае смутку і дэпрэсіі: каму я трэба такі? У 10 гадоў ён спрабаваў утапіцца.

Ёсць Божая воля на тое, — вучылі Ніка бацькі. І стараліся, каб ён асвойваў усё тое, што і здаровыя дзеці.

Як і большасць людзей на Захадзе, ён шмат падарожнічаў. Навучыўся плаваць, катацца на скейтбордзе, штурхаючыся цурубалкам ножкі, які дала яму прырода.

Але перадусім бацькі стараліся даць хлопцу веды.

Пісаў ён, трымаючы ручку пальцамі сваёй адзінай усушанай ножкі.

Нік атрымаў вышэйшую эканамічную адукацыю (бухгалтарскі ўлік і фінансавае планаванне).

Па меры таго як ён дабіваўся ў жыцці поспехаў, да Ніка стала прыходзіць упэўненасць і радасць. Ужо ў 17 гадоў ён стварыў грамадскую арганізацыю «Жыццё без канцавінаў».

Варта адзначыць, што Ніку пашчасціла нарадзіцца ў гуманным і багатым грамадстве.

Нік не ўстыдаецца свайго цела. Шчыры вернік-евангеліст, ён стаў прапаведнікам. І аб'ехаў з казанямі многія краіны свету.



Жыццё падарыла Вуічычу і вялікае каханне. Вяселле Вуічыча з Канаэ Міяхара стала шчасцем не толькі для пары, але і для ўсіх тых людзей, што дапамагалі Ніку ў жыцці. Цяпер пара чакае сваё першае дзіця.

**Мікола Бугай**

# У Мінску адключаць «Еўраспорт» і Animal Planet

Ім на змену прыйдуць **расійская «Культура»** і відэаверсія «Рускага радыё».

Мінскія тэлевізійныя інфармацыйныя сеткі (МТІС) ад 1 студзеня істотна зменяюць спіс трансляваных тэлеканалаў. Найбольшую колькасць гледачоў закране знікненне «Еўраспорта». Са слоў дырэктара МТІСа Міхаіла Мілаванава, замежны канал патрабуе большай аплаты, але гэтыя запыты празмерныя. Знікне з эфіру і «Еўраспорт-2».

«Якаснае спартыўнае вяшчанне абавязкова захаваецца», — паабяцаў Мілаванаў, але замена не выглядае адэкватнай — у праграме з'явяцца хакейны канал КХЛ і няўцямны «Рускі экстрым».

Апроч таго, не будзе працягнутая трансляцыя музычнага VH1, дзіцячага Nickelodeon, пазнавальнага Animal Planet, а таксама пяці малапапулярных каналаў.

Што будзе трансляваціца замест іх? Месца «Еўраспорту» зойме расійская «Культура». У начны час на гэтай хвалі будзе ісці тэставае вяшчанне канала HD Life у добрай якасці. Апроч таго, месца ў спісе тэлеканалаў зоймуць музычны канал «RU.TV» (відэаверсія «Рускага радыё»), дзіцячая «Карусель», расійская «Мая планета» і іншыя праграмы.

**Ягор Марціновіч**

**МТІС**

галоўны мінскі кабельны аператар. Яго паслугамі карыстаецца каля 85% насельніцтва горада.



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Ахвяры часу

Прачытаў урывак з новага рамана Уладзіміра Някляева. І скаланулася памяць.

Стылягі... дысідэнты... паэты... філосафы... геніі...

Зладзеі, шпікі, ціхары, правакатары і сексоты...

Мастацтву дазволена не лічыцца з тым, што амаль нікога, каго згадвае творца, ні ў Мінску, ні на свеце ўжо няма.

Але ёсць тумба.

І чаго я прычапіўся да таго, што на пачатку 60-х вершы чыталіся не на прыступках тэатра Юнага гледача, як піша Някляеў, а з бетоннай тумбы ля кінатэатра «Піянер»?

Ці, можа, гэта не я, уражаны ўласнай бессаромнасцю, нахабна ўзлез аднойчы на тую тумбу і, падхоплены вершаванай плынню, намагаўся выкрычаць праз сціснутае горла свой адзіны на тую часіну верш?

Не, мяне не душыла прага ні паэтычнага, ні тым больш дысідэнцкага, як сталі пісаць пазней, самавыяўлення. Толькі помста Вадзіму, якога я заўважыў у натоўпе поруч з прыгажуняй Вікай, таксама былой аднакласніцай...

...1956 год, ці то канец сакавіка, ці то пачатак красавіка, і я, быццам упершыню ў жыцці, чую, як трашчыць, ламаецца лёд на Свіслачы, і натхнёна складаю верш: «...Не верьте кандалам! Кто был хоть раз закован в стальные цепи зла, молчания и сна, тот знает, как весна нужна, чтоб лёд был сломан... Не верьте кандалам! Придет весна!» — і спяшаюся ў школу, дзе з паўгода ўжо навічок, і, забіўшыся ў цёмны канец калідора, чытаю, размахваючы рукой, Вадзіму —прызнанаму лідару класа, камсоргу і рэдактару насценнай газеты. «Здорава!», — гаворыць ён і чамусьці расшпільвае аплікі стаячага каўнера школьнага кіцеля...

Ён быў вельмі прыгожы, наш камсорг, чымсьці нагадваў маладога Маякоўскага. І гэны кіцель, які сляпуча блішчэў нашараванымі крэйдай гузікамі...

Але што кіцель, калі ў яго была Віка, на якой усё часцей затрымліваўся мой позірк?!

...«Здорава!», — усклікнуў ён. А ўвечары класная настаўніца пакінула мяне пасля ўрокаў. «Ану, ану, — вочы яе прамяніліся шчырай цікавасцю і сабранай у маршчыністую сетачку дабрынёй. — «Што ты там наскладаў?» Я маўкліва працягнуў сшытачны лісцік. «Што ж, нядрэнна. Толькі вось кайданы... Ну, якія ў наш час могуць быць кайданы? І якое зло? Ты што, не разумееш, што гэта палітычна непісьменна і нават палітычна шкодна! Табе ж уступаць у камсамол...»

Халодны пот струменіўся ў мяне па спіне. Подлы страх, што мяне могуць не прыняць, прасочваўся ў душу, прымушаючы мармытаць у апраўданне, што нічога такога я не меў на ўвазе, што гэта ўсяго толькі лёд ды цурчанне талай вады ў блакітных прамывінах... «Ну, добра, — пальцы яе загнуліся ў пабялелых

## Ну, якія ў наш час могуць быць кайданы? І якое зло? »

костачках. — Спадзяюся, сам зразумееш. Толькі гэта трэба даказаць справай. Мы з Вадзімам хочам даць табе камсамольскае даручэнне. Але ўлічы — яно сакрэтнае. Ты павінен будзеш дакладаць нам пра ўсё, што гаворыцца і што робіцца ў класе. Спадзяюся, ты разумееш, што мы павінны ведаць пра ўсё? — позірк яе займеў жорсткую дзелавітасць і спакойную ўпэўненую адкрытасць. — Гэта твой доўг!»

Не ведаю, адкуль — магчыма, з жульвернаўскіх альбо джэклонданаўскіх кніжак, ці мо з дваровых гульняў — знайшліся ў мяне сілы гарачліва ўсклікнуць, што ніколі не быў і не буду даносчыкам. «Як хочаш, — яна паціснула плячыма. — Ты мяне не так зразумеў. Толькі ўлічы — паміж намі. А даручэнне я табе дам іншае. Будзеш рабіць палітінфармацыі. Згода?» І яна ласкава падпіхнула мяне да дзвярэй...

Я нядрэнна рабіў палітінфармацыі. Тэмай нумар адзін быў XX з'езд КПСС і выкрыццё культу асобы.

...Нешта канчаткова сціснула горла, я папярхнуўся і пад жарты сяброў пачаў злазіць з тумбы, шукаючы вачамі Вадзіма з Вікай. Але іх нідзе не было...

Выплылі яны аднекуль з цемры жыцця праз пяцьдзясят гадоў пасля заканчэння школы, на апошнім традыцыйным зборы. Вядома было, што пэўны час ён круціўся на нейкай дробнай партыйнай пасадзе, потым абараніў дысертацыю і стаў выкладчыкам у адным з інстытутаў. Хадзілі чуткі, што дысертацыю па нейкай марксісцка-ленінскай метадалогіі напісаў яму за грошы Кім Хадзееў. Праз колькі год, пры Андропаве, Вадзіма судзілі за хабар. Адседзеўшы, пачаў піць. Разам с Вікай, якую нават пазнаць было ўжо амаль немагчыма...

А Вадзім, сівы і п'яны, лез да ўсіх абдымацца і запытальна дзёўб адно і тое ж: «Ты ж разумееш, што я — ахвяра?» Потым ускліікнуў за агульным сталом: «Усе мы ахвяры!»...

Праз год ці два памёр.

Але першай адышла Віка.

...Дзіўная ўсё ж такі з'ява — чалавечая памяць. З цягам часу ператвараецца ў «белага карліка», губляючы жыватворную гарачыню, сціскаецца да невялічкай плямкі, амаль нераспазнавальнай у бездані космасу. І раптам выплесне жывы пратуберанец, асвеціць прастору пражытага жыцця і апячэ подыхам мінулага Часу.

*kamerton_41@mail.ru*

**Студзень**
**1** — Новы год.
**5** — 75 гадоў таму нарадзіўся акадэмік-фізік, а пасля палітык Аляксандр Вайтовіч.
**6** — Тры каралі ў каталікоў; Вадохрышча ва ўніятаў.
**7** — Раство Хрыстова ў праваслаўных.
**19** — Вадохрышча ў праваслаўных.

**Люты**
**1** — 100 гадоў тэрарысту, а пасля палітыку Сяргею Прытыцкаму.
**2** — Грамніцы ў каталікоў, уніятаў.
**13** — Папялец у каталікоў.
**14** — Дзень Святога Валянціна.
**15** — Грамніцы ў праваслаўных.
**17** — 50 гадоў найлепшаму баскетбалісту гісторыі Майклу Джордану.
**21** — Міжнародны дзень роднай мовы.
**24** — Пурым у юдэяў.

**Сакавік**
**8** — Міжнародны жаночы дзень.
**11–17** — Масленіца ў праваслаўных.
**15** — Дзень Канстытуцыі.
**25** — Дзень Волі. 95 гадоў з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.
**27** — 50 гадоў таму нарадзіўся амерыканскі рэжысёр Квенцін Таранціна.
**31** — Вялікдзень у каталікоў.

**Красавік**
**1** — Дзень дурня.
**12** — Сусветны дзень авіяцыі і касманаўтыкі.
**13** — 50 гадоў таму нарадзіўся савецкі і расійскі шахматыст Гары Каспараў.
**26** — Дзень Чарнобыльскай трагедыі.

**Май**
**1** — Дзень працы.
**5** — Вялікдзень у праваслаўных.
**9** — Дзень Перамогі; Дзень Еўропы.
**11** — Дзень Святога Кірылы Тураўскага.
**14** — Радаўніца — вясновы дзень памінання продкаў.
**19** — Тройца ў каталікоў.
**24** — Дзень славянскага пісьменства.

**Чэрвень**
**5** — Дзень Святой Еўфрасінні Полацкай.
**20** — 50 гадоў святкуе драматург Сяргей Кавалёў.
**22** — 125 гадоў таму нарадзіўся гісторык, палітык Аляксандр Цвікевіч, забіты саветамі.
**22** — 50 гадоў таму нарадзілася філосаф, рок-спявачка Кася Камоцкая.
**23** — Купалле; Тройца ў праваслаўных.
**23** — 75 гадоў таму нарадзіўся прафесар-фізік і палітык Юрый Хадыка.
**28** — Сабор беларускіх святых.
**29** — Пятра і Паўла ў каталікоў, уніятаў.

**Ліпень**
**2** — Дзень Маці Божай Будслаўскай, апякункі Беларусі. 400 гадоў аб'яўленню абраза.
**6** — Сусветны дзень пацалункаў.
**7** — Івана ў праваслаўных.
**9** — Пачатак месяца Рамадан у мусульманаў.
**12** — Пятра і Паўла ў праваслаўных.
**27** — Дзень абвяшчэння Дэкларацыі аб суверэнітэце ў 1991 годзе.

# 2013

## 150 гадоў з пачатку паўстання Каліноўскага



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

| Студзень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

| Люты | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

| Сакавік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

| Красавік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| Май | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

| Чэрвень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

| Ліпень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

| Жнівень | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

| Верасень | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

| Кастрычнік | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

| Лістапад | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | |

| Снежань | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

**Жнівень**
**6** — 75 гадоў з дня нараджэння кампазітара Ігара Лучанка.
**15** — Унебаўзяцце ў каталікоў, уніятаў.
**19** — Яблычны Спас у праваслаўных.
**28** — Спленне ў праваслаўных.

**Верасень**
**1** — Сусветны дзень ведаў; Дзень беларускага пісьменства.
**5** — Рош Ха-Шана (Новы год) у юдэяў.
**8** — Дзень беларускай вайсковай славы ў памяць пра бітву пад Оршай 1514 года.
**27** — Узвіжанне Крыжа Гасподняга ў праваслаўных (Чэсны Хрэст).
**28** — 75 гадоў таму нарадзіўся генерал і палітык Мечыслаў Грыб, пад чыім старшынствам была прынятая Канстытуцыя.

**Кастрычнік**
**1** — Пакроў ва ўніятаў.
**6** — Дзень настаўніка.
**13** — 125 гадоў з дня нараджэння мастака Язэпа Драздовіча.
**14** — Пакроў у праваслаўных.
**15** — Курбан-Байрам у мусульманаў.
**31** — Ірландска-амерыканскае свята Хэлоўін.

**Лістапад**
**1** — Усіх святых у каталікоў.
**2** — Дзяды — восеньскі дзень памінання продкаў.
**4** — Рас-ас-Сана (Новы год) у мусульманаў.
**7** — 100 гадоў французскаму пісьменніку Альберу Камю.
**16** — Дзень Маці Божай Вастрабрамскай.
**28** — пачатак Піліпаўкі, посту перад Божым Нараджэннем у праваслаўных.

**Снежань**
**3** — Дзень бульбы.
**7** — 85 гадоў таму нарадзіўся акадэмік-геолаг Радзім Гарэцкі.
**10** — Дзень правоў чалавека.
**18** — 50 гадоў амерыканскаму акцёру Брэду Піту.
**19** — 50 гадоў таму нарадзіўся нямецкі акцёр Тыль Швайгер.
**25** — Божае Нараджэнне ў каталікоў, уніятаў, пратэстантаў.

**Юбілеі года**
**1150** гадоў з дня стварэння братамі Кірылам і Мяфодзіем Славянскай азбукі.
**1025 гадоў** хрышчэнню Русі.
**750 гадоў** як памёр кароль Вялікай Літвы Міндоўг.
**600 гадоў** Гарадзельскай уніі, заключанай паміж Ягайлам і Вітаўтам.
**500 гадоў** таму італьянскі філосаф Нікало Мак'явелі напісаў спрэчны трактат «Валадар».
**425 гадоў** таму быў зацверджаны Статут ВКЛ 1588.
**150 гадоў** з пачатку паўстання Каліноўскага.
**100 гадоў** з першай пастаноўкі камедыі Янкі Купалы «Паўлінка».
**75 гадоў** таму быў створаны Нацыянальны гістарычны архіў.
**50 гадоў** таму ў Стэнфардскім універсітэце была створана камп'ютарная мышка.
**25 гадоў** таму быў створаны аргкамітэт па стварэнні Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне».

Наша Ніва

# Пажарны выратаваў дзіця, але сам абварыўся

Пры гэтым **Павел Янушкевіч** сам вось-вось стане татам.

А 3-й ночы з разарванай трубы ўдарыў фантан 90-градуснай вады — гэта, лічы, кіпень. Рака гарачай вады імгненна заліла хаты прыватнага сектара, што стаяць у далінцы на вуліцы Белуша. Людзі прачыналіся ад шуму вады, а яна ўжо падбіралася пад ложкі. Хтосьці ўскочыў на падваконне...

Ратаваць людзей пасля аварыі трубаправода ў Гродне 18 снежня мусілі супрацоўнікі МНС. 21-гадовы Павел Янушкевіч спяшаўся на крык дзіцяці, зваліўся ў гарачую ваду і атрымаў апёкі пятай часткі цела. Як сябе адчувае Ваш муж, запыталіся мы ў жонкі пажарніка, Ірыны Янушкевіч.

— Стан стабільны. Хаця, канечне, у яго ўсё баліць. Яму пастаянна робяць уколы з абязбольваючым, пастаянна мяняюць павязкі. Апякло яму цалкам рукі, ногі, грудзі ад шыі.

**«НН»: Вы нядаўна ажаніліся?**

**ІЯ:** Так, летам. Чакаем дзіця. У мяне дзявяты месяц, магу нараджаць.

**«НН»: Павел можа вярнуцца з бальніцы татам.**

**ІЯ:** Мусіць, так і будзе. Бо лячэнне зойме не менш за месяц.

**«НН»: У яго такая прафесія — людзей ратаваць. Не страшна было на дзяжурствы яго адпраўляць?**

**ІЯ:** Кожны раз страшна. Але ён моцна любіць сваю працу, ён — патрыёт прафесіі.

**«НН»: Чытачы пытаюцца, якім чынам Вашай сям'і можна цяпер дапамагчы.**

**ІЯ:** Дапамогу і нам прапаноўваюць, але мы пакуль даём рады самі. Ніякіх лекаў не трэба — усё лячэнне ён атрымлівае ў бальніцы. А маральна прыемна, што пішуць, падтрымліваюць. Я ганаруся сваім мужам!

**Сяргей Макарэвіч**

Выратавальнікаў Паўла Янушкевіча і Станіслава Кончыка прадставяць да дзяржаўных узнагародаў. Старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра наведаў выратавальнікаў у бальніцы і падарыў ім ноўтбукі.



Павел і Іра Янушкевічы ажаніліся ўлетку.

# Пяць фактаў пра Юрыя Караева

Новы намеснік міністра МУС, **камандуючы ўнутранымі войскамі**. Як і абсалютная большасць кіраўніцтва сілавых структур, Караеў нарадзіўся не ў Беларусі.

### 1. Камандзір бабруйскага і гомельскага спецназа

Імя гэтага сілавіка на слыху апошнія чатыры гады, але ў вольным доступе ў інтэрнэце не было ніводнага здымка чалавека. Праўда, потым на сайце МУС з'явілася невялікая фотка. Караеву 46 гадоў. Да пераводу ў Мінск ён шэсць гадоў (1999—2005) кіраваў вайсковай часткай 5527, ці інакш Пятым асобным спецыяльным міліцэйскім батальёнам. Потым палкоўніка Караева пераводзяць у Гомель, дзе ён камандуе спецыяльнай міліцэйскай брыгадай (вайсковая частка 5525).

### 2. Камандзір двух мінскіх спецназаў

У ліпені 2008 Юрый Хаджымуратавіч Караеў быў прызначаны кіраўніком мінскага спецназа, які раней быў АМАПам. Змяніў ён Юрыя Падабеда. У мінскім спецназе Караеў запомніўся толькі тым, што разгайняў п'яную бойку ў Дзень ВДВ. А яшчэ пры Караеву першыя жанчыны сталі працаваць у спецназе.

Праз тры месяцы Юрыя Караева перавялі камбатам у брыгаду спецназа ва Уруччы, славутую частку 3214. Але і тут ён пратрымаўся менш за год, бо Караева заўважылі ў міністэрстве.

### 3. Караеў і Паўлічэнка

Першапачаткова Паўлічэнку пасля адстаўкі перавялі ў распараджэнне Юрыя Караева. Аднак у часткі адыёзны камандзір прабыў нядоўга. Вядома таксама, што ў свой час Юры Караеў уваходзіў у Раду Беларускай асацыяцыі ветэранаў падраздзялення спецыяльнага прызначэння войскаў МУС «Ганар». Праўда, калі ў 2007 «Ганар» узначаліў Паўлічэнка, то Караеў ужо не быў актыўным сябрам гэтай арганізацыі.

### 4. Караеў і Падабед

Юрыя Падабеда звольнілі з пасады камандзіра мінскага спецназа, нібыта з прычыны хваробы. Аднак у хуткім часе гэта не перашкодзіла яму стаць кіраўніком аховы бізнэсмэна Юрыя Чыжа. Праўда, Падабед прызнаваўся, што аддаў спецназ у рукі «сябра сям'і». «Караеў — выдатны мужык, ведаю яго 12 гадоў, сябруем сем'ямі. Так што не сумнявайцеся, пытанняў з ім не будзе. Ён кантактны, прыстойны, інтэлігентны, выхаваны і правільны чалавек», — казаў Падабед.

### 5. Караеў і Уцюрын

Сённяшні намеснік міністра МУС і кіраўнік службы аховы Лукашэнкі, адзін з найбольш таямнічых айчынных сілавікоў Андрэй Уцюрын, скончылі адну навучальную ўстанову — Саратаўскае вайскова-каманднае вучылішча. Караеў у 1987 годзе, а Уцюрын — у 1992. Праўда, потым яны сутыкнуліся ў вайсковай часты 3214. Разам здавалі на крапавыя барэты.

**Зміцер Панкавец**



# Дык браў намеснік Ладуцькі паўмільёна ці не?

На судзе над былым намеснікам старшыні Мінгарвыканкама паказанні дае **маса чыноўнікаў**.



Ігара Васільева **(на фота)** абвінавачваюць толькі па адным артыкуле — «Атрыманне хабару асобай, якая займае адказнае становішча». Справу сярод шэрагу падобных вылучае сума — паўмільёна даляраў.

Паводле следства, прадстаўнік чэшскага бізнэсоўца пакінуў у кабінеце Васільева партфель з 250 тысячамі даляраў — палова ад абгаворанай сумы. Цягам гадзіны ў кабінет прыйшлі супрацоўнікі КДБ, арыштавалі намесніка Ладуцькі і забралі грошы.

Грошы чыноўнік нібыта патрабаваў ад чэхаў за падпісанне дамовы на будаўніцтва ў Мінску завода па перапрацоўцы смецця. Калі ж чэхі не паспявалі ў тэрмін пачаць працу, тады ўжо Васільеў нібыта патрабаваў грошы, каб дамову не скасавалі.

Ігар Васільеў сваёй віны не прызнае. Але нешта тлумачыць адмовіўся. Чакае, як будуць дапытаныя ўсе сведкі, каб, па яго словах, прадаставіць доказы сваёй невінаватасці. Хаця невялікія тлумачэнні ўсё-ткі даваў.

У матэрыялах крымінальнай справы маецца «яўка з павіннай» экс-намесніка старшыні гарвыканкама. Цяпер ён адмаўляе яе шчырасць. Кажа пра псіхалагічны ціск з боку супрацоўнікаў КДБ. Менавіта па іх прапанове і напісаў такі дакумент пасля затрымання. «Я праявіў слабасць і пагадзіўся на атрыманне гэтых грошай», — гаворыцца ў яўцы. Са словаў Васільева, супрацоўнікі КДБ узамен за такі дакумент паабяцалі даць адвакага і праз тры дні адпусціць пад падпіску. А справу «абставіць» так, што ніхто не будзе нічога ведаць. Маўляў, чыноўнік знаходзіцца ў адпачынку (на наступны дзень пасля затрымання ён сапраўды меўся адлятаць на мора ў Турцыю). Дакумент падпісаў, але так і застаўся за кратамі.

На працэсе былі дапытаныя сведкі: намесніца кіраўніка сталічнага гарвыканкама Жанна Бірыч, экс-намеснік Сяргей Радаман, начальніца юрыдычнага аддзела Мінгарвыканкама Ірына Вусава, іншыя функцыянеры. Але ніводзін з бакоў так і не запатрабаваў выклікаць у суд самога старшыню гарвыканкама Мікалая Ладуцьку. Хоць менавіта ягоны подпіс стаіць пад кантрактам з чэхамі, падпісанне якога, па версіі абвінаваўцы, і лабіраваў Васільеў.

Што да чэшскай фірмы «ЭкаКлінЭнерджы», то завод яна ў Мінску не пабудуе. Прынамсі, папярэдняя дамова скасаваная ў кастрычніку. А ў лістападзе ў Гаспадарчы суд падалі заяву аб спагнанні штрафных санкцый з чэхаў.

У справе Васільева маюцца аўдыёзапісы, зробленыя, імаверна, з дапамогай праслухоўкі. Васільеў паспеў заявіць, што гэта падробка, склееная з розных размоў.

Пакуль не гаварылася, што адбылося з чалавекам, які нібыта прынёс грошы. З тлумачэнняў Васільева стала ясна, што яго затрымлівалі. І адвакат у іх спачатку быў адзін на двух.

Калі суд палічыць, што хабар у гарвыканкаме меў месца, то Васільеву пагражае доўгі тэрмін турэмнага зняволення. Трэба адзначыць, што выглядае былы чыноўнік бадзёра, трымаецца ўпэўнена.

**Кастусь Матушыч**

# Кіно года: топ-4

Гэты год адзначыўся для беларускага кіно вялікай падзеяй. Упершыню фільм, зняты паводле беларускай класікі рэжысёрам, народжаным у Беларусі, і з удзелам беларускай кінастудыі трапіў на Канскі фестываль у асноўны конкурс. Гэта «У тумане» Сяргея Лазніцы, паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава. Яшчэ адзін фільм — «Жыве Беларусь» — паказалі ў Канах па-за конкурсам.

Незалежны кінематограф адзначыўся парай яскравых фільмаў, расстаўляць якія па прызавых месцах не выпадае: стужкі вельмі розныя.


Сяргей Лазніца (злева) на чырвонай дарожцы ў Канах.

## Класіка: «У тумане»



Гэта прыклад таго, як стужка, заснаваная на беларускім, больш за тое — ваенным матэрыяле, можа зацікавіць свет.

Лазніца ўбачыў класічны твор Быкава па-свойму, нават дадаўшы «ад сябе» эпізоды, якія маюць цалкам быкаўскі настрой і характар. Лазніца цікавіўся Быкавым як пісьменнікам-экзістэнцыялістам і сфакусаваўся на праблеме маральнага выбару ў сітуацыі, калі выбар немагчымы. Хоць здымаўся фільм не ў Беларусі, і сам Лазніца не лічыць сябе выключна беларускім рэжысёрам, ён зняў найлепшы нацыянальны фільм за апошнія гады.

Экранізацыя Васіля Быкава трапіла ў асноўны конкурс у Канах, сабрала шэраг узнагародаў — ад гран-пры «Лістапада» да Адэскага кінафестываля.

## Скандал: «Вышэй за неба»




Фільм «Вышэй за неба» рэжысёра Дзмітрыя Марыніна і сцэнарыста Андрэя Курэйчыка — найгучнейшая і найскандальнейшая прэм'ера года: адзняты на сродкі ААН васьмісерыйны тэлефільм пра СНІД здымачная група, без згоды замоўцаў, перамантажавала ў дзвюхгадзінны поўны метр. Аднак аўтарскія правы на яго засталіся ў ААН, які паўнаметражную версію забараніў. Тады фільм «злілі» ў інтэрнэт, дзе стужка зрабіла фурор. Гісторыя маладога музыкі Мікіты, у якога знайшлі СНІД, атрымала супрацьлеглыя водгукі. Частка гледачоў кажа, што гэта сапраўднае вострае і актуальнае кіно, іншыя ж лічаць «Вышэй за неба» надзвычай зацягнутым. У фільм трапілі ў якасці камеа многія культурныя дзеячы нашага часу — ад Віктара Марціновіча да Андрэя Хадановіча. А саўндтрэк «Вышэй за неба» з удзелам «Ляпісаў», Akute, Sonica існуе як паўнавартасны альбом.

## Экстрым: «Здымаць на паражэнне»



Яшчэ адзін інтэрнэт-рэліз, які нарабіў шуму, гэта аматарскі фільм 22-гадовага рэжысёра Крыса Нонга (ён жа Кірыл Нонг) «Здымаць на паражэнне». Бюджэт фільма — усяго толькі $2,5 тысячы, доўжыцца ён 50 хвілін, але створаны ў сапраўдных галівудскіх традыцыях. Па якасці карцінкі не саступае, а часам пераўзыходзіць прафесійны беларускі кінематограф. Гэта прыгодніцкі фільм пра хлопца, які збіраецца здымаць кіно і выпадкова фіксуе аперацыю спецслужбаў.

## Загадка: «Жыве Беларусь»



Фільм-таямніцу пра жыццё палітжаўнера па матывах дзённікаў Франака Вячоркі, зняты польскім рэжысёрам Кшыштафам Лукашэвічам, масавы глядач яшчэ не бачыў. Фільм трапіў на кінакірмаш Канскага фестывалю, была прэм'ера ў Польшчы, малы паказ у Мінску — пра далейшы лёс фільма нічога не чутно. У інтэрнэце гуляе трэйлер — у асноўным сцэны Плошчы 2010 года. Па словах тых, каму пашчасціла фільм убачыць, у ім ёсць мастацкія перабольшванні. Бюджэт фільма склаў $1,9 мільёна даляраў. Інтэрнэт-прэзентацыя таксама пераносілася некалькі разоў. Таму «Жыве Беларусь» пакуль можа ўганараваць толькі ў намінацыі «фільм-загадка».

**Юрась Ускоў**

# Альбомы года: топ-5

## Akute — «Не існуе»




Трыа Akute сваім другім альбомам працягнулі справу папулярызацыі поп-рока сярод моладзі. Іх канцэрты збіраюць аншлагі, яны выступаюць перад Placebo, яны гучаць у фільме «Вышэй за неба». Другі альбом Akute вольны ад «сіндрому другога альбома» — песні ў ім не горшыя Магчыма, у хуткім часе Akute стануць галоўнымі беларускамоўнымі спевакамі краіны.

## Срэбнае вяселле — Laterna Magica




Шкада, што гурт Святланы Бень не спявае па-беларуску. Тым не менш, доўгачаканы другі альбом кабарэ-бэнду лепшы за дэбютны. Сталым наведнікам канцэртаў «Вяселля» песні даўно знаёмыя, аднак у студыі яны зазіхацелі новымі фарбамі — выявілася, што і без шоу (а па ўзроўні шоу з «Вяселлем» у нас ніхто не пацягаецца) гэтыя песні могуць выдатна існаваць. Асабліва адзначым абсурдысцка-філасофскі трэк «Пищевая цепочка» — так і ўяўляеш, як яго спявае Эдыт Піяф.

### Гангнам Стайл: народны хіт

У рэйтынгі не трапляе, але мусіць быць адзначаная песня Gangnam Style карэйскага рэпера Psy. На сайце YouTube яна сабрала болей за мільярд праглядаў — гэта абсалютны рэкорд у гісторыі сервера. Песня гэта пра багаты раён Сеула з смешным танцам-пародыяй на «мажорнае» жыццё стала міжнародных хітом — яе спяваюць усе: па-беларуску існуе ўжо два варыянты.

## Neuro Dubel — «До*уя советчиков»




Аляксандр Кулінковіч і кампанія запісалі самы «лёгкі» і «вясёлы» альбом ва ўсёй дыскаграфіі гурту. І амаль без мату. Ну, толькі ў загалоўнай песні і ў назве кружэлкі. «Дзюбель» узняўся да такога ўзроўню, што які б альбом ні запісаў — дрэнна ўжо не выйдзе. А вось песня-кавер на класічную «Куба, любоў мая» — гэта проста нейкае свята. Кулінковіч умее рэанімаваць рэчы, якія да яго падаваліся неаперабельнымі.

## Ляпіс Трубяцкой — «Рабкор»




З «Вясёлымі карцінкамі» яго, канечне, не параўнаеш, але «Рабкор» выконвае сваю асноўную функцыю. Як і абяцалі «Ляпісы», гэта своечасовая зборка агітак і лозунгаў. А тое, што «Ляпісы» — найлепшы канцэртны гурт краіны, і казаць неяк няёмка: на каго яшчэ з Беларусі едуць поўныя аўтобусы слухачоў у сталіцы суседніх дзяржаў? Да таго ж, на альбом трапіла «Не быць скотам» — згустак энергіі на верш Янкі Купалы.




### 5+

### Дахабраха & Port Mone — «Хмелева Project»

Дадаткам да топавай пяцёркі можа быць вынік супольнага праекту беларускага гурту Port Mone з украінцамі «Дахабраха». Гэта не музыка, якую можна слухаць штодня, але ў плане інтэлектуальнага фолку і этнікі даўно нічога мацнейшага не было. У альбоме спалучаюцца джазавыя матывы, народная песня і медытатыўнасць.

## «Палац» — «Кола грукатала»




Алег Хаменка з сябрамі працягваюць ствараць новую народную песню. Не адрозніш, дзе песня старадаўняя, а дзе аўтарства саміх музыкаў. Матэрыял зроблены бездакорна — за амаль дзесяцігоддзе «студыйнага» маўчання гурт нічога не згубіў.

**ЮУ**

### Заходні топ-5: ад Оўшэна да Коэна

Заходнія музычныя выданні не прыйшлі да адзінай высновы наконт найлепшага альбома 2012 года. Ніжэй — пяцёрка тых, хто найчасцей трапляў на прызавыя месцы.

**Фрэнк Оўшэн — Channel Orange**

Фрэнк Оўшэн, які піша песні для людзей кшталту Джасціна Бібера, выпусціў першы сольнік. Музыка натхняецца, здаецца, усёй музыкай, якая існуе ў прыродзе, выходзіць якасны неасоўл. Чакаем працягу.

**Джэй Уайт — Blunderbus**

Калі на вокладцы напісана «Джэк Уайт» — асаблівых сюрпрызаў не дачакаешся: на месцы і брудная гітара, і надрыў, і, канечне, жаданне стаць у адзін шэраг з Led Zeppelin. Мяркуючы па рэакцыі крытыкаў, Уайт як ніколі блізкі да звання «класіка».

**Брус Спрынгсцін — Wrecking Ball**

Амерыканскі рок-герой Брус Спрынгсцін трапіў у першыя радкі рэйтынгаў. Яго Wrecking Ball — гэта шэдэўр на ўсе часы.

**Black Keys — El Camino**

Чарговая порцыя гаражнага рока, які імкліва вяртаецца ў моду.

**Leonard Cohen — Old Ideas**

Паэт і спявак Леанард Коэн выпусціў першы за 12 гадоў студыйны альбом. Ягоныя «старыя ідэі» — гэта начытаныя паверх інструментаў разважанні, адарвацца ад якіх нерэальна.

# Найлепшыя кнігі 2012




Найлепшай кнігай, на думку экспертаў «НН», стала «**Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае**. Ілюстраваная гісторыя» Уладзіміра Арлова і Змітра Герасімовіча.

Ілюстрацый у кнізе — каля дзвюх тысяч. Карты, выявы старажытных дакументаў, фота гістарычных помнікаў, партрэты дзяржаўных дзеячаў... «За гэтую кніжку людзі, не вагаючыся, выкладалі па 350 тысяч. Яна папросту зрабіла нам план!» — кажа дырэктарка кнігарні «Логвінаў» Кацярына Пікірэня.

Тое, што «Вялікае Княства...» палічылі найлепшым, сведчыць і пра пастаянную цікавасць да тэмы гісторыі.

Сёлета эксперты назвалі амаль восем дзясяткаў кніг. Сярод іх пераважаюць навуковая літаратура і ўспаміны.

У першай дзясятцы дзве пазіцыі занялі пераклады замежнай літаратуры — Корчак і Ергавіч. Калі польскі аўтар даўно стаў класікай, дык баснійскі пісьменнік — сучаснік.

Сённяшнюю мастацкую прозу краіны ў топ-дзясятцы прадстаўляе Людміла Рублеўская. У дзясятку-2011 трапляў Андрэй Федарэнка, але сёлета ягоныя дзве кнігі назвалі толькі па адным разе.

Класіка ў дзясятцы прадстаўленая Генюш і Быкавым. Выданні спецыфічныя. У першым выпадку — эпісталярый. У Быкава — ранния неапублікаваныя творы, незавершаная аўтабіяграфія, запісы з нататнікаў. Чытанне хутчэй на спецыялістаў і фанатаў.

У топ не трапіла ніводнай дэбютнай кнігі. Амаль няма паэзіі. Гэта ўражвае. Краіна паэтаў, як часам называлі Беларусь, у крызісе. Нельга папракнуць экспертаў, што нейкі паэтычны зборнік прапусцілі. Тых, пра якія б цягам года *гаварылі*, фактычна і не было.

Толькі адну кнігу — Алесь Краўцэвіч «Гедымін (1316—1341). Каралеўства Літвы і Русі» — эксперты назвалі чатыры разы, астатнія — менш. Гэта праява таго, што беларуская культурная прастора па-ранейшаму ўяўляе сабой архіпелаг, а не мацярык..

Эксперты згадалі больш за трыццаць выдавецтваў, але сярод іх толькі тры знаходзяцца па-за сталіцай і яшчэ чатыры — у іншых краінах.

Рэгіянальныя выдавецкія асяродкі нешматлікія, дый выдаюць там збольшага даследаванні ўніверсітэцкіх выкладчыкаў ці мясцовых пісьменнікаў. Каторы год на рэгіянальным полі па нашых апытаннях першынство застаецца ў Гродне.

Лідарам па колькасці згаданых кніг сёлета стала дзяржаўнае выдавецтва «Мастацкая літаратура». Сярод недзяржаўных — «Логвінаў».

Выніковы рэйтынг падаецца паводле падліку балаў па дзесяцібальнай шкале. За кожнае першае месца ў спісе налічваецца 10 балаў, за другое — 9 і г.д. Увыпадках кнігарань — па выніках продажаў.

**Падрыхтаваў Сяргей Макарэвіч**

**Дзясятка найлепшых кніг 2012 года выглядае так:**

1.Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя. — Славакія: Kalligram. — **25 балаў.**

2.Януш Корчак. Трохтомнік: Кароль Мацюсь Першы; Кароль Мацюсь на бязлюдным востраве; Кайтусь-чарадзей / Пераклад з польскай. — Мінск: Логвінаў. — **21.**

3-6.Міхась Мушынскі. Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа. — Мінск: Беларуская навука.

Азбукоўнік і лічылка. Укл. Зося Кустава. — Мінск: Мастацкая літаратура.

Міленка Ергавіч. Іншала, Мадона, іншала / Пераклад з баснійскай Сяргея Шупы — Мінск: Зміцер Колас.

Ларыса Геніюш. Лісты з Зэльвы: з эпісталярнай спадчыны (1964-1983). — Гродна/Уроцлаў. — **Па 20**.

7.Сяргей Дубавец. Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду. — Радыё «Свабода». — **19**.

8.Альгерд Бахарэвіч. Гамбургскі рахунак Бахарэвіча. — Радыё «Свабода». — **16**.

9.Алесь Краўцэвіч. Гедымін (1316-1341). Каралеўства Літвы і Русі. — Мінск: Святлана Татарнікава. — **15**.

10.Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў. — Гродна/Уроцлаў.

Людміла Рублеўская. Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега. — Мінск: Рэдакцыя газеты «Звязда». — **Па 13**.

**Найлепшыя кнігі папярэдніх гадоў:**

2011 — Адам Бабарэка. Збор твораў у 2 тамах.

2010 — Уладзімір Караткевіч. Ладдзя Роспачы. Першае непадцэнзурнае выданне.

2009 — Алег Латышонак. Нацыянальнасць — Беларус.

2008 — Галасы з-за небакраю: анталогія паэзіі свету ў беларускіх перакладах ХХ ст. Уклаў Міхась Скобла.

2007 — Павел Севярынец. Лісты з лесу.

**Андрэй Хадановіч, паэт:**
1. Януш Корчак. Трохтомнік.
2. Міленка Ергавіч. Іншала, Мадона, іншала.
3. Тадэвуш Ружэвіч. Без. Выбраныя вершы / Пераклад з польскай Марыны Казлоўскай. — Мінск: Колас.
4. Валянцін Акудовіч. Кніга пра Нішто. — Мінск: Логвінаў.
5. Uladzimier Arloū. Śvieciacca vokny, dy nikoha za jimi. Вершы. — Мінск: Логвінаў.
6. Юлія Шарова. Don Giovanni, або Памілаваны свавольнік. — Мінск: электроннае выданне.
7. Людміла Рублеўская. Сутарэнні Ромула. — Мінск: Кнігазбор.
8. Альгерд Бахарэвіч. Гамбургскі рахунак Бахарэвіча.
9. Уладзімір Сцяпан. Адна капейка. — Мінск: Літаратура і мастацтва.
Віктар Шалкевіч. Мястэчка G... і ваколіцы.
10. Наста Манцэвіч. Птушкі. — Мінск: Логвінаў.
Андрэй Пакроўскі. Як я перастаў верыць у Дзеда Мароза. — Мінск: Логвінаў.
Анка Упала. Дрэва энталіпт. — Мінск: Логвінаў.

**Міхась Казлоўскі, краязнавец, рэдактар альманаха «Куфэрак Віленшчыны»:**
1. Лявон Юрэвіч. Шматгалосы эпісталярыум. гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні. — Мінск: Кнігазбор.
2. Ларыса Геніюш...
3. Людміла Рублеўская. Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега.
4. Людміла Рублеўская. Сутарэнні Ромула.
5. Сяргей Дубавец. Майстроўня.
6. Аркадзь Ліцьвін. Галс. Аповесць з 1734 года. — Гродна.
7. Вячаслаў Рагойша. Мой трыглаў: кніга пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. — Мінск: Кнігазбор.
8. Уладзімір Ляхоўскі. Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX — І-й палове XX ст. (да 1939г.). — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.
9. Яўген Кулік. Жыццяпіс: успаміны, згадкі, фотаздымкі. — Мінск: Дзіксенд.
10. Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў. — Гродна/Уроцлаў.

**Андрэй Вашкевіч, гісторык:**
1. Ян Шумскі .Саветызацыя Заходняй Беларусі (1944—1953) / Пераклад з польскай. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.
2. Полацк. 1150. Кніга-фотаальбом. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя.
3. Уладзімір Ляхоўскі. Ад гоманаўцаў да гайсакоў...
4. Барыс Данілюк. Азіраючыся расой выетымі вачыма. Успаміны.
5. Ларыса Геніюш. Лісты з Зэльвы...
6. Рыгор Семашкевіч. Янка Купала і беларускае адраджэнне. — Маладзечна: друкарня «Перамога».
7. Прэс-фота Беларусі-2011. Фотаальбом.
8. Сяргей Харэўскі. Сто твораў XX стагоддзя: нарысы па гісторыі мастацтва і архітэктуры Беларусі найноўшага часу. — Вільня: ЕГУ.
9. Дзмітрый Люцік. Нёманскі фронт 15-25 ліпеня 1944 года, Гарадзенская бібліятэка, 2012. — Гродна/Уроцлаў.
10. Алесь Краўцэвіч. Гедымін (1316-1341). Каралеўства Літвы і Русі.

**Аляксандр Фядута, літаратуразнавец:**
1. Міхась Мушынскі. Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа.
2. Янка Юхнавец. Паэзія. — Мінск: Лімарыус.
3. Азбукоўнік і лічылка.
4. Альгерд Бахарэвіч. Гамбургскі рахунак Бахарэвіча.
5. Янка Купала. Мне сняцца сны аб Беларусі: успаміны, эсэ, артыкулы, дакументы. — Мінск: Мастацкая літаратура.
6. Станіслаў Шушкевіч. Моя жизнь, крушение и воскрешение СССР. — Масква: РОССПЭН.
7. Сяргей Дубавец. Майстроўня. Гісторыя аднаго цуда.
8. Януш Корчак. Трохтомнік
9. Уладзімір Караткевіч. Збор твораў у 25 тамах. Том 1. — Мінск: Мастацкая літаратура.
10. Барыс Данілюк. Азіраючыся расой выетымі вачыма: успаміны. — Мінск: Лімарыус.

**Аксана Бязлепкіна, літаратуразнавец:**
1. Ігар Запрудскі. Па дарозе на Парнас: атрыбуцыйныя даследаванні і пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры XIX ст. — Мінск: Выдавецтва БДУ.
2. Максім Танк. На камні, жалезе і золаце: успаміны, эсэ, прысвячэнні. Укл. У. Казбярук. — Мінск: Мастацкая літаратура.
3. Тэрэза Голуб. Летапіс жыцця і творчасці Аркадзя Куляшова. — Мінск: Беларуская навука.
4.Дзяніс Марціновіч. «Донжуанскі спіс» Караткевіча. — Мінск: Чатыры чвэрці.
5. Алена Брава. Рай даўно перанаселены. — Мінск: Галіяфы.
6. Людміла Рублеўская. Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега.
7. Андрэй Федарэнка . Ланцуг. — Мінск: Мастацкая літаратура.
8. Юлія Шарова. Don Giovanni, або Памілаваны свавольнік.
9. Андрэй Федарэнка. Сечка. — Мінск: Галіяфы.
10. Уладзіслаў Бубен. Марцін і кацяня. — Мінск: Мастацкая літаратура.

**Алег Дзярновіч, гісторык:**
1. Вацлаў Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Факсіміле. — Мінск: Мастацкая літаратура.
2. Мішэль Уэльбэк. Магчымасць выспы. Пераклад з французскай Змітра Коласа. — Мінск: Зміцер Колас.
3. Сяргей Дубавец. Майстроўня...
4. Палітычная гісторыя незалежнай Беларусі. — Вільня: Істытут беларусістыкі.
5.Альгерд Бахарэвіч. Гамбургскі рахунак Бахарэвіча.
6. Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь: Вялікае Княства Літоўскае.
7. Міленка Ергавіч. Іншала, Мадона, іншала.
8. Валенцій Ваньковіч. Альбом. — Мінск: Беларусь.
9. Алесь Краўцэвіч. Гедымін (1316-1341). Каралеўства Літвы і Русі.
10. Прэс-фота Беларусі 2011. Фотаальбом.

**Кнігарня «Логвінаў», Мінск:**
1. Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае.
2. Альгерд Бахарэвіч. Шабаны. Раман. — Мінск: Галіяфы.
3. Януш Корчак. Трохтомнік.
4. Міленка Ергавіч. Іншала, Мадона, іншала.
5. Прэс-фота Беларусі-2011. Фотаальбом. — Мінск: Логвінаў.
6. Станіслаў Ліс-Блонскі. Балахоўцы / Пераклад з польскай. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі.
7. Валянцін Акудовіч. Кніга пра Нішто.
8. Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў.
9. Максім Танк. Абвяржэнне. Сто выбраных вершаў. Укладальнік Андрэй Хадановіч. — Мінск: Логвінаў.
10. Сяргей Дубавец. Майстроўня.

**«Кніжны салон», Мінск:**
1. Міхась Мушынскі. Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа.
2. Юрый Лаўрык. Кнігі і кнігазборы куцеінскага Богаяўленскага манастыра ў сярэдзіне XVII ст. — Мінск: Тэхналогія.
3. Вялікае Княства Літоўскае і суседзі: Права. Вайна. Дыпламатыя. — Мінск: БІП — Інстытут правазнаўства.
4. Нікольскі Яўген. История Великого княжества Литовского и Московского царства в прозе Всеволода Соловьева. — Мінск: В. Хурсік.
5. Валянцін Урублеўскі. Великий дух Беларуси: (мифы и реальность). — Мінск: Логвінаў.
6. Аляксандр Чаромін. Туровское княжество (X-XIV). — Мінск: Паліграфкамбінат ім. Я.Коласа.
7. Аляксей Шаланда. Сімвалы і гербы зямель Беларусі ў X-XVIII стст.: геральдычна-сфрагістычныя нарысы. — Мінск: Беларуская навука.
8. Восіп Пшацлаўскі. Калейдаскоп успамінаў: У 2 т / пераклад з расійскай Марыны Чарнякевіч. — Мінск: Лімарыус.
9. Віктар Шалкевіч. Мястэчка G…і ваколіцы. — Мінск: Кнігазбор.
10. Валерый Казакоў. Абібокі. Мініяцюры. — Мінск: Кнігазбор.

**Інтэрнэт-кнігарня Prastora.by:**
1. Азбукоўнік і лічылка.
2. Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў.
3. Дзе Купала начавала. Народныя песні, калыханкі, прыказкі і прымаўкі. — Мінск: Мастацкая літаратура.
4. Уладзімір Арлоў. Пакуль ляціць страла. — Радыё «Свабода».
5. Першая беларуская гаспадарча-кулінарная энцыклапедыя : Літоўская гаспадыня... / Пераклад з польскай. — Мінск: Беларусь.
6. Ларыса Геніюш. Лісты з Зэльвы...
7. Я — чалавек. Вершы для дашкольнага ўзросту. — Мінск: Мастацкая літаратура.
8. Алесь Краўцэвіч. Гедымін (1316-1341). Каралеўства Літвы і Русі.
9. Uladzimier Arloū. Śvieciacca vokny, dy nikoha za jimi.
10.Ірына Клімковіч. Калі адчыняюцца нябёсы: міфалагічныя замалёўкі. — Мінск: Мастацкая літаратура.

**Акадэмкніга, Мінск:**
1. Уладзімір Арлоў, Зміцер Герасімовіч. Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае.
2. Алесь Краўцэвіч. Гедымін (1316-1341). Каралеўства Літвы і Русі.
3. Фёдар Піскуноў. Вялікі слоўнік беларускай мовы. — Мінск: Колас.
4. Сяргей Аляхновіч. Руслан Салей. Simply the best : просто лучший. — Мінск: Медысонт.
5. Вадзім Дзеружынскі. Тайны беларуской истории. — Мінск: ФУАінфарм.
6. Сяргей Плыткевіч. Планета Беларусь. Фотаальбом. — Мінск: Рыфтур.
7. Наталля Батракова. Миг бесконечности. — Мінск: Рэгістр.
8. Уладзімір Караткевіч. Збор твораў у 25 тамах. Том 1.

**Кнігарня «Эўрыка», Мінск:**
1. Беларуска-рускі слоўнік у 3 тамах. Т 1. Выданне 4. — Мінск: Беларуская энцыклапедыя.
2. Эдуард Самусенко. Беларусь и Отечественная война 1812 года: исторические очерки и эссе. — Мінск: Беларусь.
3. Полоцк: Полоцк и Полоцкое княжество (земля) в IX-XIIIV вв., летопись древних слоев, Полоцк и его округа в XIV-XVIII вв…— Мінск: Беларуская навука.
4. Фёдар Чарняўскі.Ураднікі Менскага ваяводства XVI-XVIII стст. Біяграфічны даведнік. — Мінск: Зміцер Колас.
5. Аляксандр Рагалёў. Скрытый смысл географических названий, легенд и преданий (по материалам Беларуси). — Гомель: Барк.
6. Алесь Савіцкі. Пісьмо ў рай: раманспаведзь. — Мінск: Мастацкая літаратура.
7. Наталья Батракова. Миг бесконечности.
8. Аляксей Якімовіч. Каб мама ўсміхалася: апавяданні, казкі, смяшынкі. — Мінск: Народная асвета.
9. Азбукоўнік і лічылка.

# Раечка, жывая душа

**Наталка Бабіна.** Каляднае апавяданне.

Доктар Ціхі выразна адчуваў сябе аддзеленым ад міру і ад вайны. І ў чым сэнс жыцця — ведаць ніколі не прэтэндаваў. Але ён працаваў загадчыкам хірургічнага аддзялення ў цэнтральнай раённай бальніцы. Аднак гэта так, рэмарка.

* * *

— Стой! Куда ты? Это ідіотізм! — галасіў здаровы сэнс доктара Ігара Васілевіча Ціхага, загадчыка хірургічнага аддзялення райбальніцы, калі ён праз дзве прыступкі ляцеў па лесвіцы ўніз, да выхаду, куды на інвалідным вазку павезлі Раечку, жывую душу. — Это больше чем ідіотізм! Опомнісь!

— Заткнісь на время, ладно? — кінуў доктар свайму здароваму сэнсу, ірвануўшы ўваходныя дзверы і выбраўшыся на двор.

Марозны вецер падхапіў незашпілены халат, узвіў за спінай нейкай гратэскнай плашчаніцаю, хлопнуў. Раечка ў інвалідным вазку, каля адчыненых дзверцаў недабітага «Фальксвагена», і гэтыя, так сказаць, дзеці каля яе — не ведаюць, як загрузіць маці. З акон аддзялення — доктар ведаў — глядзяць пацыенты.

Доктар перайшоў на крок, хаця і хуткі.

— Везіте мать назад.

Раечка — 70 год, ногі босыя, пастаўлены коса, бо інакш не становяцца, ужо пасінелі ад холаду і ад недахопу крыватоку — глядзіць на ўсё з гэтай сваёй безабароннай усмешкай.

— Везіте, говорю, мать назад.

Дзеці Раечкі– высокі хлопец, які і перабіў маці ногі тры месяцы таму, і дачка (гожая ж, хоць на твары алкагалізм цвіце цветам) — паслухмяна адразу ж завярнулі каталку. Дзецям так было прасцей і лепш. Бо яны, пасля таго як участковы міліцыянер прыгразіў, што калі не забяруць маці з бальніцы, ім не паздаровіцца, а старшыня сельскага савета сказаў, што выпрэ іх нахер у ЛТП, калі маці не забяруць, збіраліся адвезці Раечку зусім не ў іх развалюху, куды, тым не менш, старая жанчына імкнулася, як у рай. І яны добра прадчувалі, што трэба будзе яшчэ ім пераждаць сёння: як іх маці будзе крычаць, супраціўляцца, вырывацца з іх рук, калі павалакуць па снезе яе ў дом састарэлых...

А пасля загаду Ціхага ўсё для ўсіх стала прасцей і лепш. Стала правільна, хаця доктар Ціхі пакуль што не да канца быў упэўнены ў гэтым. Калі вось так развязваюцца праблемы — гэта называецца прынцыпам брытвы Окама.

А здаровы сэнс доктара працягваў галасіць: «Как так? Ты эту асоціальную элементку домой попрёшь? Её, которую-то і в богадельню не стоіт отдавать, самое лучшее, что она может сделать — умереть как можно быстрее... Зачем она тебе, даже еслі она і действітельно мать? Ведь она тебя бросіла, і ты лішь чудом выжіл...»



А ветравыя марозныя сняжынкі ляцелі і ляцелі, а хвоі высокія снежнымі шапкамі нахіляліся над будынкамі ЦРБ, нічога не жадаючы ведаць пра жарсці чалавечыя, а з рэанімацыі ўжо назвонькалі, жадаючы бачыць доктара Ціхага там неадкладна.

* * *

Ах, Раечка, Раечка.

Калі ж гэта доктар Ціхі западозрыў?

Не тады, калі Раечку прывезлі, і косткі тырчалі з галёнкі.

Доктар Ціхі ў такіх выпадках адразу ператвараўся ў доктара Беспамылковага і адсякаў усё асабістае і лішняе, акрамя дыягностыкі.

— Анэстэзію. Рэнтген. Гіпс.

Не на наступны дзень, калі пачалося запаленне:

— Катэтар, антыбіётык унутрывенна.

Але потым Раечка стала доўгажыхаркай аддзялення — ляжала месяц, пакуль усё зраслося і загаілася, а потым два месяцы яе ніхто не забіраў — і ў доктара Ціхага быў час прыглядзецца.

О, доктар быў фізіянамістам! Прапрацуйце дваццаць год са скальпелем на каруселі людскога болю, і вы станеце.

Раечка біла напавал сваімі вачыма і ўсмешкай — безабароннымі. Сваёй нікчэмнасцю. Сваёй мяккасцю. Жыццё было ў яе бесталковае.

Прагрэс і цывілізацыя прыйшлі ў яе глухую беларускую вёску, і вось у 70 гадоў у Раечкі былі двое дзяцей-алкаголікаў, калгасная пенсія палявода, і сама яна любіла выпіць, і сын перабіў ёй ногі так, што хадзіць яна не зможа ніколі. Нават на ногі не зможа стаць.

І лічыўся за ёй вялікі грэх у кнігах бышця: першага свайго сыночка яна нарадзіла ў дзеўках і падкінула ў дзіцячы дом, а сама з'ехала на цаліну...

А пацыенткі, якія ляжалі з Раечкай у палаце, таксама ставілі дыягназ беспамылкова, і тоўстая «нырачніца» Ніна Іванаўна, суседка па палаце, уздыхнула:

— Што ж, таксама жывая душа...

Многа іх, жанчын, змянілася за тры месяцы ў палаце, і ўсе тры месяцы санітарка Ляля штодня варочала Раечку, каб перасцяліць пасцель, і суседкі ўздыхалі:

— Што ж, таксама жывая душа.

Чаму Ляля — душа маўклівая і моцная, як вада, — варочае Раечку штодзень, хаця па інструкцыі і не абавязаная? Да санітаркі Лялі загадчык заўсёды моцна прыслухваўся.

— Павяртайся ж, халера на цябе, павяртайся, бо здохнеш! — Ляля у выразах ніколі не цырымонілася.

Западозрыў — ды не, атрымаў упэўненасць, як пад дых кулаком, — калі, абыходзячы палаты, — а рабіў ён гэта ў любыя вольныя хвіліны, зноў-такі не па інструкцыі, — затрымаўся за дзвярыма і пачуў Раеччын аповед Ніне Іванаўне:

— І дзе ж ён цяпер, мой сыночку? Прапаў ён, прапаў, як спасаўскае кацяня...

І сэрца доктара тохнула і стала.

* * *

Бо ён быў дзетдомаўскім.

Прозвішча Ціхі Ігар Васілевіч атрымаў у дзіцячым доме, куды трапіў, калі было яму прыкладна два гады. Век вызначыла спецыяльная камісія, якую збіралі ў такіх выпадках. Што хлопчыка завуць Ігарам, а бацька яго Васіль — пазначана было ў запісцы, а Ціхі — так вырашылі загадчыца і выхавацелька, бо хлопчык не плакаў, не скуголіў і не гаварыў — маўчаў, калі яго знайшлі на ганку, маўчаў, калі мылі, пераапраналі з ягонай кашулькі з абшмарганымі рукавамі, маўчаў, калі далі паесці... Таму і Ціхі.

Так ён і вырас, з такім прозвішчам, з такімі звычкамі.

Доктар Ціхі, які штодня рэзаў чалавекаў, быў зацятым матэрыялістам і ведаў, што, згодна з навукай, дзіця пачынае памятаць сябе з трохгадовага веку, не раней.

Але Ігар памятаў, памятаў гэта: грэе сонца, ён у калысцы на полі, кругом зялёнае жыта, над калыскай нахіляецца маладзенькая і самая-самая любімая ў свеце жанчына ў белай хустачцы: «А мой ты сыночку...» — чуе хлопчык прыгожы, поўны любові голас і смех. І грэе сонца.

І за тры месяцы, што Раечка правяла ў давераным яму хірургічным аддзяленні, доктар Ціхі ўпэўніўся: яна, гэтая бесталковая беларуская жанчына з вечна вінаватай усмешкай і цягай да алкаголю — ягоная маці.

* * *

А добра, што апераваў мяне менавіта доктар Ціхі. Пашанцавала.

Доктар Ціхі працаваў у гэтым згустку болю і дабра — цэнтральнай раённай бальніцы — ужо дваццаць год і кожны дзень меў справу з чалавекам як ён ёсць. І доктар любіў сваю справу, і справа любіла яго. І супрацоўнікі ў яго былі класныя — бо, зауважу у дужках, які ідзе, такіх і сустракае. І чалавекаў сваіх, пацыентаў, доктар глыбока любіў.

Усіх.

І дзеда з панкрэатытам, набытым ад шкодных звычак. Шыкоўны дзед — які пчаляр, які казачнік! Прааперавалі яго ўдала.

І ружавашчокую дырэктарку прыдарожнага рэстарана, на якую напалі рабаўнікі, каб забраць выручку. «Сама не ведаю, як я адбівалася. Толькі знала: грошы ім не аддам, бо вяртаць няма чым, а прымусяць жа, а ў мяне ж дзеткі», — ужо ў гіпсе, з сінякамі на ружовых шчоках, расказвала кабетка на посце медсястрычкам за чаем.

І будаўніка, які зваліўся з верхатуры, бо хацеў утрымаць вітраж, каб не ўпаў і не разбіўся...

І хлопчыка, які пабіўся з міліцыянтам на дыскатэцы.

І таго міліцыянта, да слова.

І тоўстую «нырачніцу» Ніну Іванаўну, аўтарку афарызма «Раечка, жывая душа». Штовечар да яе прыходзіў муж, шчупленькі, разы ў два драбнейшы, і так яны ўжо прыгожанька сядзелі побач на пасцелі, і так ужо той Хведар Хведаравіч заглядаў за сваёй Ніначкай...

А намеснікі міністраў і супрацоўнікі службы бяспекі прэзідэнта сюды, у раённую бальніцу, не траплялі.

* * *

Не, я гляджу, гэты аповед ніколі не скончыцца.

Зараз трэба расказаць пра жонку доктара Ціхага — гэта да яе паехаў наш эскулап, стырно кіравання аддзяленнем пакінуўшы Змітру Сцяпанавічу.

Жонкі ж розныя бываюць, праўда?

І хаця ўсё доктар Ціхі для сябе вырашыў, але да канца не быў пэўны, што паступае згодна з прынцыпам брытвы Окама, і ён мусіў і абавязаны быў атрымаць дазвол ад жонкі, і вельмі хваляваўся, што выяўлялася ў нейкай пустаце пад лыжачкай і трымценні рук.

Святлана спалохалася, пабачыўшы мужа ў працоўны час — такое здаралася выключна рэдка, апошні раз — калі іх старэйшы трапіў пад машыну.

— Што? — прашаптала ціха, устаючы з-за стала.

— Ды нічога, не лякайся. Я хачу ўзяць яе да нас дамоў.

Святлана плюхнулася назад ў сваё крэсла.

Як Вы думаеце, што яна сказала далей? Вылупіла вочы і стала крычаць, што муж здурэў? Адрэзала, што не збіраецца цярпець чужога чалавека ў сваім доме, нейкую старую бязногую алкагалічку? Што яна не наймалася выграбаць гаўно за нейкай бамжыхай? Што яна і так стамляецца, што ў яе няма футра, што кватэра маленькая нават для іх з дзецьмі?

— Дзякуй Богу! — сказала яна.

І гэты выраз палёгкі меў два сэнсы: па-першае, Святлана радавалася, што нічога такі не здарылася з дзецьмі, а па-другое — што маці мужа цяпер будзе жыць пры сыне.

Бо хаця доктар Ціхі і не рашаўся наўпрост расказаць Святлане пра тое, пра што апошні час неадрыўна думаў, але паколькі меў звычку штовечар расказваць пра тое, чым жыў днём, і паколькі Святлана па чуйнасці сваёй да сэрца і розуму каханага мужа магла даць фору самаму найлепшаму сейсмографу, яна даўно зрабіла высновы з расказаў пра Раечку, жывую душу, і чакала толькі, што будзе далей...

Калі Ангеліна Хрыстафораўна заглянула ў кабінет да загадчыцы, каб паведаміць, што дзеці гатовыя, бацькі сабраліся і можна пачынаць ранішнік, Святлана Іванаўна і Ігар Васілевіч стаялі пасярод пакоя абняўшыся і на рыпенне дзвярэй павярнулі заплаканыя твары. Але было ў гэтых мокрых тварах нешта такое прасветленае, што Ангеліна Хрыстафораўна не спалохалася за сваю загадчыцу і яе мужа, а толькі ціхенька прычыніла дзверы. Можна ж трошкі і пачакаць, нікуды той ранішнік не падзенецца...

* * *

А цяпер надо ешчё два слова сказать про мову.

— Прічём тут вообще мова? — абурыцца, напрыклад, нейкі такі Дзімыч.

Мінутку терпенія.

Сколько себя помніл доктор Тіхій — он говоріл по-русскі.

В детдоме все говорілі по-русскі.

Все говорілі по-русскі і в мединституте.

Але працаваў доктар у райбальніцы, і вось да тоўстых нырачніц, будаўнікоў і дзядоў з панкрэатытам інтэлігент Ціхі звяртаўся на іх мове — з прыроджанай і набытай павагі да людзей і таму, што разумеў, што найлепш лечыць слова простае, а не крывое, сваё слова.

Помніліся, помніліся доктару беларускія словы ў сонечным цяпле...

Так што мова мае дачыненне да прынцыпу брытвы Окама, дарагі Дзімыч.

Да таго, што гэта правільна, калі гаварыць па-беларуску, як правільна не кідаць дзяцей і прабачаць маці.

Так што давялося і здароваму сэнсу доктара Ціхага ўрэшце перайсці на беларускую мову. Пасля таго як доктар Ціхі канчаткова перайшоў на Раеччыну мову і на планёрках.

Пасля таго як Ігару і Святлане ўдалося падняць маці на ногі.

І намеснікі міністра ды супрацоўнікі службы аховы прэзідэнта, калі сталі трапляць у хірургічнае аддзяленне ЦРБ, лавілі цяпер беларускія словы свайго доктара з надзеяй і пашанай, як і заўсёды ловяць хворыя словы сваіх дактароў, якія вядуць іх да ацалення.

**Наталка Бабіна**

пісьменніца. Жыве ў Ждановічах (Мінскі раён). Аўтарка рамана «Рыбін горад» і кнігі апавяданняў «Крыві не павінна быць відна».



18 мне ўжо... За час кіравання Лукашэнкі вырасла цэлае пакаленне. На фота: парад 3 Ліпеня.




Парламенцкія выбары прайшлі паныла і без інтрыгі. У Беларусі сфармавалася чарговая стэрыльная палата прадстаўнікоў.




Шэсце на Дзяды ў Курапаты прайшло пад знакам пратэсту супраць будаўніцтва ля ўрочышча забаўляльнага цэнтра «Бульбашъ-Холл». Намаганнямі грамадскасці будаўніцтва ўдалося прыпыніць. На фота: былы палітвязень Сяргей Каваленка.



Трэшу на горацкіх «Дажынках» хапала.



«Ляпіс Трубяцкой» цэлы год вымушаны быў даваць канцэрты за мяжой. Беларусы масава ездзілі на выступы ў Смаленск і Вільню.



Вернікі пратэстанцкай царквы «Новае жыццё» адстаялі будынак, за які змагаліся шэсць гадоў.



Павел Латушка страціў пасаду міністра культуры. Цяпер ён пасол Беларусі ў Францыі.




БАТЭ слаўна пашумеў у Лізе чэмпіёнаў, адужаўшы саму «Баварыю». Дапамог барысаўцам у гэтым Аляксандр Глеб (на фота).

# Які гіпермаркет самы танны і самы дарагі?

Ад «Еўраопта» да «Бігза» — **рэйтынг.**

Мінчукі маюць багаты выбар, дзе закупляцца прадуктамі на тыдзень. На канец 2012 года ў Мінску працавалі 13 гіпермаркетаў пад сямю брэндамі — чатыры «Гіпа», тры «Прасторы», дзве «Кароны», адзін «Еўраопт», «Суседзі», «Бігз» і «Бі-март». Калі вялікая крама знаходзіцца пад бокам, пытанне, куды ехаць, не паўстае.

У адваротным выпадку прыглядзецца да нашага спіса. Мы склалі рэйтынг крамаў — ад тых, хто найбольш клапоціцца пра грошы сваіх кліентаў, да тых, хто, наадварот, падымае гандлёвую нацэнку ўсё вышэй.

Наша даследаванне не прэтэндуе на навуковасць, але атрымалася паказальным. Як мы лічылі? «Наша Ніва» абрала адвольныя 18 запатрабаваных тавараў — і прадуктаў, і прамтавараў. Зусім танныя тавары, напрыклад, хлеб ці малако, мы не разглядалі — розніца ў іх цане будзе мінімальнай. Тое ж датычыць цукру і гарэлкі, дзе цэны рэгулююцца дзяржавай.

Такім чынам, у нашым прадуктовым кошыку вараная каўбаса найвышэйшага гатунку, філе фарэлі, бляшанка салодкай кукурузы, шакаладка, а таксама мандарыны і хурма. З прадукцыі ўласнай вытворчасці гіпермаркета набудзем свіны фарш, катлеты пакіеўску і сушы. Піць будзем каву, нектар, піва і элітны віскі. Нарэшце, у непрадуктовым спісе — модны жаночы часопіс, мяккая цацка, станок для галення, пральны парашок і ахаладжвальная вадкасць для аўтамабіля.

Мы перапісалі цэннікі ў кожным з гіпермаркетаў. Крама, у якой тавар быў самым танным, атрымлівала 10 балаў, самым дарагім — 1 бал. Прамежкавыя балы налічваліся прапарцыйна розніцы ў цане. Калі тавару ў краме не было, што ж, ставілі сярэднія пяць балаў.

Пераможца бачны адразу — гэта «Еўраопт». Палову з прадстаўленых у нашым спісе тавараў найвыгадней набываць менавіта ў гэтым гіпердыскаўнтары. Цэны ў астатніх крамах сеткі могуць быць трохі вышэйшымі, але літаральна на 100-200 рублёў. Асартымент у «Еўраопце» не надта шырокі, але танныя аналагі знайсці заўсёды можна.

«Прастор» Юрыя Чыжа замацаваўся на другім месцы, але па цэнах на прамысловыя тавары мае ўпэўненае лідарства. Што здзівіла, дык гэта адсутнасць у продажы нектараў «Сочны» — самых папулярных у краіне. Відаць, не сышліся характарамі...

«Гіпа» вылучаецца таннай імпартаванай рыбай і недарагой кулінарыяй уласнага вырабу.

Самы загадкавы і невядомы сталічны гіпермаркет — «Бі-март». Ён знаходзіцца на Мінскай кальцавой дарозе каля Уручча, на месцы будаўнічай крамы «Дэкорум». Дабрацца да яго грамадскім транспартам немагчыма, сустрэць у апусцелай гандлёвай зале іншых пакупнікоў таксама складана... Выбар прамысловых тавараў небагаты. Разынка крамы — магчымасць патэлефанаваць загадзя і папрасіць скласці для цябе вазок патрэбных прадуктаў. Пасля дастаткова заскочыць у краму і забраць іх.

«Суседзі» — сетка крамаў, якая адкрыла свой гіпермаркет апошняй. Нязручнае транспартнае злучэнне з жылымі раёнамі робіць яго арыентаваным на жыхароў Даўгінаўскага тракта, Навінак і Цянкі. Цэны ж — сярэднія па горадзе.

Самыя дарагія мінскія гіпермаркеты — «Карона» і «Бігз», прычым з вялікім адрывам ад канкурэнтаў. У апраўданне «Кароны» можна адзначыць дармовыя пакеты, якія выдаюцца пакупнікам, доўгі час працы — ажно да 2-й ночы — і размяшчэнне ў цэнтры горада. А вось пазіцыі «Бігза» моцна падкасіла дарагая кулінарыя, па некаторых пазіцыях удвая даражэйшая за астатнія.

**Ягор Марціновіч**

**Усе гіпермаркеты Беларусі**

**«Еўраопт»** (ААТ **«Еўрагандаль»**) — 6 гіпермаркетаў (Мінск, Бабруйск, Брэст, Віцебск, Гомель, Жлобін). Уласнікі — Сяргей Літвін і Уладзімір Васілька. Доля абароту сеткі — 7,8%.

**«Гіпа»** (ІП «Белвілесдэн»)– 6 гіпермаркетаў (Мінск, Гомель, Магілёў). Уласнік — Алег Бараноўскі. Доля абароту сеткі — 1,7%.

**«Карона»** (ТАА «Тытунь-Інвест») — 5 гіпермаркетаў (Мінск, Бабруйск, Брэст, Віцебск). Уласнікі — Павел Тапузідзіс і Віктар Пятровіч. Доля абароту сеткі — 2,3%.

**«Прастор»** (СЗАТ «Прастор-Маркет») — 3 гіпермаркеты (Мінск). Уласнік — Юрый Чыж. Доля абароту сеткі — 1,6%.

**«Суседзі»** (СТАА «Лібрэтык») — 1 гіпермаркет (Мінск). Уласнік — Алма Яўнцэмене. Доля абароту сеткі — 1,3%.

**«Бігз»** (СТАА «Баніяр») — 1 гіпермаркет (Мінск).

«Бі-март» (СТАА Талмі-Бел») — 1 гіпермаркет (Мінск).

**«Алмі»** — 1 гіпермаркет (Гродна). Уласнік — Аляксандр Зарыбка. Доля абароту сеткі — 1,4%.

**«Грын»** (група кампаній Рапа) — 1 гіпермаркет (Салігорск).



Беларускія гіпермаркеты наблізіліся да заходніх па асартыменце. Але татальных распродажаў не стае.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Што такое гіпермаркет?**

У беларускіх дзяржаўных стандартах адсутнічае азначэнне «гіпермаркет». А вось у суседняй Расіі ёсць дакладная фармулёўка: гандлёвы аб'ект плошчай ад 4 тысяч квадратных метраў, шырокім асартыментам і зонай абслугоўвання.

**Задорага ці затанна?**

Пакуль пакупнікі наракаюць на высокія цэны ў гіпермаркетах, прадпрымальнікі, наадварот, абураюцца заніжанымі цэнамі і несумленнай канкурэнцыяй. Вялікія сеткі патрабуюць у пастаўшчыкоў зніжку 30-40%, чаго не могуць сабе дазволіць астатнія ўдзельнікі рынку. Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальнікаў патрабуе прыняць закон «Аб гіпермаркетах», у якім рэгламентаваць правілы гандлю.

| | | Еўраопт | | Прастор | | Гіпа | | Бімарт | | Суседзі | | Карона | | Бігз | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Свіны фарш** | 1 кг | 54 500 | 8 | 49 990 | 10 | 61 700 | 6 | 73 300 | 2 | 48 700 | 10 | 58 900 | 7 | 75 500 | 1 |
| **Каўбаса вараная «Апетытная» (в/г)** | 1 кг | 44 500 | 8 | 43 680 | 10 | 44 480 | 8 | 44 050 | 9 | 47 460 | 1 | 46 420 | 4 | 44 600 | 8 |
| **Філе фарэлі, Санта Брэмар** | 300 г | 53 550 | 7 | 54 100 | 6 | 50 370 | 10 | 53 950 | 6 | 58 470 | 1 | 58 450 | 1 | 58 610 | 1 |
| **Кава Nescafe Classic** | 120 г | 27 700 | 10 | 27 990 | 9 | 28 580 | 6 | 29 950 | 1 | 29 960 | 1 | 29 060 | 5 | 29 950 | 1 |
| **Мандарыны** | 1 кг | 14 500 | 10 | 19 700 | 3 | 16 900 | 7 | 16 950 | 7 | 17 520 | 6 | 19 550 | 3 | 20 850 | 1 |
| **Хурма** | 1 кг | 22 500 | 10 | 24 410 | 7 | 27 420 | 3 | 26 700 | 4 | 25 930 | 5 | 26 700 | 4 | 28 600 | 1 |
| **Нектар «Сочны», мультыфруктовы** | 1 л | 7 800 | 10 | --- | 5 | 8 770 | 6 | 9 250 | 4 | 10 000 | 1 | 10 000 | 1 | 8 000 | 9 |
| **Катлета па-кіеўску** | 1 кг | 65 500 | 10 | 79 860 | 8 | 76 900 | 9 | 74 800 | 9 | 80 910 | 8 | 88 700 | 7 | 146 430 | 1 |
| **Сушы («Філадэльфія» ці аналаг)** | 1 кг | 104 650 | 10 | 129 950 | 5 | 116 900 | 8 | 111 600 | 9 | 119 850 | 7 | 149 800 | 1 | 145 200 | 2 |
| **Кукуруза ABC (ці аналаг)** | 340 г | 6 700 | 10 | 6 990 | 8 | 8 290 | 1 | 6 750 | 10 | 7 950 | 3 | 8 100 | 2 | 8 250 | 1 |
| **Шакалад Alpen Gold** | 100 г | 7 800 | 9 | 7 490 | 10 | 9 140 | 3 | 8 750 | 5 | 8 360 | 6 | 9 500 | 2 | 9 650 | 1 |
| **Піва Аліварыя Дзясятка** | 0,5 л | 6 850 | 10 | 7 350 | 7 | 6 910 | 10 | 7 550 | 5 | 7 590 | 5 | 7 550 | 5 | 8 150 | 1 |
| **Віскі Джэк Дэніэлс** | 0,75 л | 299 900 | 9 | 334 990 | 3 | 296 900 | 10 | 322 000 | 6 | 300 430 | 9 | 349 450 | 1 | 322 550 | 6 |
| **Часопіс Cosmopolitan Mini** | | 20 500 | 7 | 17 500 | 10 | 23 430 | 4 | 21 650 | 6 | 27 130 | 1 | 24 600 | 3 | 26 450 | 2 |
| **Пральны парашок Ariel** | 4,5 кг | 103 650 | 10 | 116 710 | 4 | 114 540 | 5 | 120 530 | 2 | 122 630 | 1 | 121 750 | 2 | 110 300 | 7 |
| **Ахаладжвальная вадкасць** | 4 л | 39 500 | 5 | 36 300 | 10 | 41 960 | 1 | --- | 5 | 36 660 | 9 | 36 650 | 9 | 38 400 | 7 |
| **Станок для галення Gilette Fusion Power** | | --- | 5 | 147 970 | 10 | 157 330 | 7 | --- | 5 | 175 610 | 1 | 160 550 | 7 | 163 400 | 6 |
| **Мяккая цацка Панда, Fancy** | | --- | 5 | 75 130 | 10 | 77 260 | 4 | --- | 5 | 75 660 | 9 | 78 150 | 1 | 76 600 | 5 |
| **АГУЛЬНЫ БАЛ** | | | **153** | | **135** | | **108** | | **100** | | **84** | | **65** | | **61** |




**21 снежня ў мінскім Палацы спорту выступіў скандальны амерыканскі рокер Мэрылін Мэнсан. Цікава, што на сцэну ён выйшаў з бел-чырвона-белым грымам на твары.**







**Гісторык Наталля Гардзіенка сабрала калядныя паштоўкі, якія выпускала беларуская эміграцыя. Частка іх захоўваецца ў фондах Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, іншая — у лонданскай Беларускай бібліятэцы імя Скарыны. Агульная колькасць вядомых эміграцыйных навагодні паштовак перавышае 50. Болей паштовак — на сайце nn.by.**




**У Мінску актывісты «Ежы без бомбаў» накармілі беспрытульных гарачай ежай. Акрамя кашы з гарбатай людзям раздалі цёплыя рэчы.**



**Мехіка. Людзі з абмежаванымі магчымасцямі запускаюць у паветра ліхтарыкі.**

## Анекдоты

* * *

Ідэальны мужчына — гэта той, які выходзіць з машыны і кажа: «Каханая, ты ідэальна прыпаркавалася, а гэты Lexus... ужо быў памяты, і кот быў дохлы, ды і елка нафіг не патрэбная... была...»

* * *

Як толькі па БТ пачалі пераконваць, што канца свету не будзе, з'явіліся трывожныя думкі...

* * *

Чуткі пра канец свету — гэта проста вучэбная трывога.

* * *

Калі вы яшчэ ўчора ўвечары выгналі свайго мужа з дому, а ён да гэтага часу сядзіць пад дзвярыма, паспрабуйце памяняць пароль на wi-fi.

* * *

У мінулы Новы год адмовіўся ад аліўе. У гэты паспрабую ад мандарынак адмовіцца — трэба ж высветліць, чаму мне так дрэнна 1 студзеня.

## Шаноўныя чытачы, наступны нумар «НН» выйдзе ў сераду, 9 студзеня. Шчаслівага Вам Новага года і вясёлых Каляд!

## «НН» сто гадоў з вамі

**У 1913 годзе у «Наша Ніва» пойдзе па тэй дарозе,** па якой ішла сем гадоў і будзе далей жывым люстрам жаданняў і патрэб беларускага народа.

**«НН». №51-52. 1912.**

**24 снежня, акурат на Святы вечар, загарэўся Нясвіжскі замак.** Давялося выклікаць дапамогу з суседніх раёнаў — Капыльскага і Баранавіцкага, а потым Клецкага ды Мінскага. Палаў дах цэнтральнае вежы. Агонь займаў плошчу 30 кв.м. Вежа цяпер стаіць зусім без даху, моцна пацярпела ляпніна XVIII ст. Карціны ў самім замку (у тым ліку і ўнікальная распісаная столь памерам 15 на 18 метраў) засталіся цэлымі — адно што закурэлі.

**«НН». №48. 2002.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8085. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 25.12.2012.
Замова №5509.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12